

Сустрэчы ў Чыжах → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Ручнік у Гарадку → 5

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 47 (3106) Год LX | Беласток, 22 лістапада 2015 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



# ДРАЎЛЯНАЯ СПАДЧЫНА НАШАГА РЭГІЁНА

**Адзінаццаты раз запар у Цеханоўцы 8 лістапада быў падведзены Конкурс на найлепш захаваны будынак драўлянага дойлідства. Як не дзіўна, найбольш узнагарод трапіла да ўласнікаў аб'ектаў з беларускіх вёсак. Драўляныя хаты, гаспадарчыя будынкі, млыны — гэта прыклад даўняга будаўніцтва, якое характэрнае для ўсходняй часткі Падляшскага ваяводства. Драўляная архітэктура мае вялікае значэнне для культурнай тоеснасці жыхароў нашых вёсак. Нацыянальная ідэнтычнасць — нягледзячы на глабалізацыю — добра бачная праз архітэктуру, якая з'яўляецца часткай культуры кожнага народа.**

Адным з самых важных паказчыкаў культурнай самабытнасці ваяводства з'яўляецца драўлянае будаўніцтва, якое захоўвае і па гэты дзень свой рэгіянальны характар. На жаль, у апошнія дзесяцігоддзі значна паскорыўся працэс яго заняпаду, усё больш і больш будынкаў паўстае з новых, і ў той жа час больш трывалых матэрыялаў. З сельскага пейзажу знікаюць драўляныя асабнякі, адрыны, свірны, млыны, клуні, ветракі і многія іншыя віды будынкаў, якія да нядаўняга часу здаваліся ўласцівымі яму элементамі. У час конкурсу вылучаюцца не толькі найбольш каштоўныя аб'екты драўлянага будаўніцтва, але таксама звяртаецца ўвагу на спосаб выкарыстання такога будынка.

Першае месца ў XI выпуску Конкурсу на найлепш захаваны будынак драўлянага дойлідства ў Падляшскім ваяводстве заняла хата з мясцовасці Старая Разадранка, што на Сакольшчыне. Дом належыць вядомай паэтэсе Леанардзе Шубздзе. У 2013 годзе купілі яе цяперашнія ўласнікі, якія правялі капітальны рамонт дома. Будынак, узнагароджаны Упраўлаю маршалка Падляшскага ваяводства, можа быць узорам таго, як спалучыць сучасныя патрэбы з традыцыйнаю архітэктурай. Яго выгляд можа выклікаць здзіўленне: за што яму далі ўзнагароду? Каб зразумець рашэнне журы, трэба зазірнуць у сярэдзіну дома, які быў пабудаваны ў 30-х гадах XX стагоддзя. Тут ёсць усё неабходнае для сучаснага чалавека. Аднак захаваны і першасны выгляд дома, з традыцыйнымі дэталямі абсталявання. Нават панадворак такі сам, як пры першых уласніках.



Маршалак падляшскага ваяводства Ежы Ляшчынскі ўручае ўзнагароду для Леанарды Шубзды

— Для нас гэта вялікая духоўная каштоўнасць, — кажа пераможца Леанарда Шубзда. — Захаванне памяці аб тым, што ў гэтай хаце засталося. Гэта такое вяртанне ў нашыя дзіцячыя гады, даўнія часы, якія нам запамяталіся і памяць пра якія хочам перадаць дзецям. Гэты дом — наша свабода. Там мы можам быць сабою, пазнаваць сябе.

Другое месца заняў дом спадарства Клеменяў з Грабянёў. Быў ён перанесены на сваё цяперашняе месца ў 1926 годзе з той жа самай мясцовасці. На жаль, няма інфармацыі, калі быў пабудаваны, верагодна на пераломе XIX і XX стагоддзяў. Хата не была рамантаваная, за выключэннем змены тока на падлогу з дошак. Як падкрэслівае сябра журы Артур Гавел, сярэдзіна дома ўражвае амаль музейнай экспазіцыяй этнаграфічных збораў: „Выключны выгляд хаты ствараюць старая мэбля, тканіны, макаткі, ходнікі, а таксама фатаграфіі. Усярэдзіне можна таксама паглядзець прылады штодзённага карыстання ў даўняй вясковай гаспадарцы. Журы, прызначаючы ўзнагароду, ацаніла дбайнасць уласнікаў, а таксама абарону сельскай спадчыны”.

Хата з Грабянёў аздобленая разнымі, характэрнымі для беларуска народнага дойлідства арнаментамі і дэталямі.

— Мы яе дасталі ад мае цешчы і прыязджаем туды летам на адпачынак, — кажа Ірэна Клеменя. — Гэтая хата ўсіх нас аб'ядноўвае. Мы там святкуем дні нараджэння, імяніны. Усё, што там знаходзіцца, гэтыя прылады засталіся па маіх цясцях. Мы хочам гэтае берагчы.

Другое месца ў Конкурсе атрымаў будынак Любы і Мікалая Краснадэмбскіх з вёскі Паўлы. У гэтай жа мясцовасці знаходзяцца ўжо дзве іншыя хаты, якія сталі лаўрэатамі ў 2012 і 2013 гадах. Узнагароджаны ў сёлетнім конкурсе дом пабудаваны быў у 1945 годзе. З таго часу не быў рамантаваны. Сёння ніхто ў ім не жыве. Гэты драўляны будынак вылучаецца вокнамі, якія ўпрыгожаны разнымі элементамі і аканіцамі. Мэбля, якая знаходзіцца ў хаце, у вялікай ступені паходзіць з палавіны XX стагоддзя і ранейшага перыяду. На сценах вісяць макаткі і кілімы. Сцены памаляваныя паводле характэрнага для 60-70-х гадоў мінулага стагоддзя дызайну.

Увагу журы прыцягнулі ў гэтым годзе будынкі пабудаваныя ў 30-х гадах XX стагоддзя, м.інш. млын, хата, стадола і свіронак.

— Мы стараліся ўзнагародзіць аб'екты, якія маюць гістарычную каштоўнасць, маюць захаваны ў добрым стане вонкавы выгляд, — кажа дырэктар Музея вёскі Артур Гавел. — Аказваецца, што можна жыць у камфортных умовах адначасова захоўваючы даўні выгляд будынка.

Варта адзначыць, што поспех беларусаў не абмяжоўваецца да першых трох месцаў. Вылучэнні атрымалі хаты з вёсак Чыжы і Сацы.

— Хаця на Падляшшы нямала і старых чароўных мураванак, аднак драўлянае будаўніцтва найбольш характэрнае нашай вёсцы. Беларускай вёсцы выключна, аб чым сведчыць і гэты — ужо адзінаццаты — выпуск конкурсу на найлепш захаваны помнік драўлянага вясковага будаўніцтва. Беларускае асяроддзе, можна так сказаць, мае найцікавейшыя будынкі, — прыкмецціў Антоні Мосевіч, этнограф з Музея сельскай гаспадаркі імя Кшыштафа Клюка ў Цеханоўцы, суарганізатара Конкурсу на найлепш захаваны помнік вясковага драўлянага будаўніцтва ў Падляшскім ваяводстве.

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ





# Чацвёрты самалёт

У Парыжы тэракт. Людзі разгубленыя. Яны не могуць зразумець, што адбылося. І сапраўды, каб зразумець чаму людзей забіваюць проста за тое, што яны людзі, трэба зламаць ужо ўсталяваны за апошнія гады, штучна створаны і імплантаваны ў еўрапейскую свядомасць светагляд.

Трэба па-іншаму глянуць на чалавецтва. Трэба зразумець, што такія каштоўнасці як павага да чалавечага жыцця ўсталёўваліся ў той жа Францыі вякамі. Што ад таго моманту, калі ў Парыжы кругласутачна выкарыстоўвалася гільяціна да моманту, калі была адменена смяротная кара прайшоў цэлы цывілізацыйны перыяд, у якім не ўсе народы бралі ўдзел. Многім не пашанцавала так як еўрапейцам. Шкада. Але факт застаецца фактам. І акурат тое, што гэты факт не хочуць улічваць еўрапейскія палітыкі і стварае для крывавых тэрарыстаў лёгкую мажлівасць для антычалавечых праяў.

Яны прыязджаюць у Еўропу замаскіраваныя пад бясконцую плынь уцекачоў з нянавісцю да ўсяго еўрапейскага. Яны бяруць у еўрапейскіх валанцёраў ежу і вопратку ў той самы момант, калі складаюць планы па забойстве гэтых людзей. Еўрапейскія палітыкі выдаткоўваюць вялікія мільярды для таго, каб іх пракарміць. А вось на тое, каб зрабіць з іх людзей з еўрапейскім мысленнем, грошай не хапае.

Наадварот, агітацыя ідзе ў тым кірунку, каб еўрапейцы перасталі быць еўрапейцамі. Агітаваць за еўрапейскія традыцыйныя каштоўнасці лічыцца на дадзены момант ужо кепскімі паводзінамі. Нават міністры культуры некаторых еўрапейскіх краін адкрыта заяўляюць пра ўвядзенне мультыкультуры. Што гэта такое, ніхто не ведае. А на практыцы гэта проста банальная адмова ад сваіх нацыянальных і традыцыйных, выпакутаваных вякамі, прайшоўшых доўгі шлях эвалюцыі і ўдасканалення каштоўнасцей.

Вось яны, гэтыя міністры і гэтакія палітыкі мусяць зараз раздзяліць разам з бяздзейснымі спецслужбамі адказнасць за тэракты. Іх жа папярэджвалі, што так будзе.

Перш чым адчыняць межы для масавай і бескантрольнай міграцыі, яны мусілі хаця б узброіць свой народ. І хаця б псіхалагічна яго падрыхтаваць да таго, што прыйдзецца адстрэльвацца. Можа тады колькасць ахвяр не прыводзіла б у шок.

Але яны лгалі. Яны казалі свайму народу што ўсё пад кантролем. Яны казалі адмовіцца ад свайго, каб не пакрыўдзіць чужых. І зараз яны не прызналі ні сваёй віны, ні нават сваіх памылак.

Калі тэрарысты ў ЗША захапілі самалёты і знішчылі тысячы людзей, каментатары ўсіх тэлеканалаў заявілі, што пасля гэтага страшнага дня свет ужо будзе іншым. Але справа ў тым, што свет ужо быў іншы. Менавіта гэта і прывяло да тэрактаў, што свет ужо змяніўся. І змяніўся не ў лепшы бок.

Усяго некалькі тэрарыстаў з нажамі для рэзкі паперы, якія то і зброяй назваць нельга, трымалі ў страху безліч людзей, якіх пасля ўсё адно знішчылі. Ці мажліва было б такое хаця б гадоў дваццаць таму? Канешне, не. Самі пасажыры ім хутка галовы паадкручвалі б, бо людзі былі выхаваны бараніць сваё і сябе ды несці адказнасць за іншых сваіх суайчыннікаў.

Людзі тады ведалі, што цябе імгненна падтрымаюць усе пасажыры і вы скруціце тых тэрарыстаў яшчэ да таго, як яны гэта зразумеюць. А калі нехта адсядзіцца, то будзе аб'яўлены баязліўцам і з ганьбай будзе выкінуты з самалёта разам з адкручанымі галовамі тэрарыстаў.

Зараз усё па-іншаму. Выхаванае ў збачэнскіх прынцыпах рэал-палітыкі грамадства стала няздольнае на ўчынак. А самі рэал-палітыкі забыліся, што 11 верасня ў небе над Амерыкай быў чацвёрты самалёт. Самалёт, пасажыры ягога не дазволілі тэрарыстам здзейсніць задуманае і ўратавалі мноства жыццяў сваіх суайчыннікаў.

Яны загінулі. Толькі ў адрозненні ад іншых, яны загінулі героямі. Дык чаму іх не ставяць у прыклад? Чаму Галівуд не здымае пра іх фільмаў? Чаму прэзідэнт не ўзнагароджвае іх пасмяротна? Чаму ім не ставяць помніка на месцы ўзарваных вежаў-блізнюкоў? Ці на тым месцы, куды самалёт не далецеў і не ўзарваў яго? Чаму тыя, хто выжыў дзякуючы іх мужнасці, не ведаюць гэтага? А ведаць мусяць усе. Бо толькі тады, калі будуць ушанаваны пасажыры чацвёртага самалёта, тэракты скончацца. Яны згубяць і матывацыю, і сэнс.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Усё на продаж



Адказнасць — вялікае слова. Толькі адказнасці за словы быццам бы ўсё менш. Але ўсё больш і больш крывадушнасці, цынізму, несумленнасці. Гэта паказвае, што рухаючая сіла адказнасці перакладваецца на практыку. Так у дзяржаўнай, як і ў прыватнай сферы. Чым больш слабее яе канцэптуальнае здзяйсненне, тым больш у паўсядзённым жыцці бязладдзіцы, безгалоўя, ілжы. Чым больш несправядлівасці і хлусні ў грамадскім жыцці, тым больш размываецца важнасць індывідуальнай адказнасці. Дарэчы, яе прагрэсіўная дэградацыя ў абедзвюх сферах, дзяржаўнай і прыватнай, з'яўляецца ўзаемным узддзеяннем. Калі грамадскія асобы, надзеленыя грамадскім даверам, кажуць адно, а робяць іншае, гэта сутнасная супярэчнасць — гэта супярэчнасць, якая апраўдвае інтымнае, як бы ні было, пытанне аб тым, ці яны паводзяць сябе ў асабістым жыцці таксама: здраджваючы сваіх мужа ці жонку, хоць абяцалі ім лаяльнасць да смерці; даючы дзіцяці плескача замест абяцанай зорачкі з неба; паляпваючы па спіне сябра, у той час пішучы даносы на яго; хлусячы, што кажуць праўду... Ці такое неадназначнае спрэчнае стаўленне склалася ў іх з дапамогай выхавання ў сямейным доме? У школе? Вось я ненаўмысна выклікаў несмяротнага злога духа спрэчкі, што было раней: курыца ці яйка? Ці палітыкі таму такія крывадушныя, што цемрашаламі былі і іх бацькі? Чыноўнікі халодныя і нячулыя да пакут заяўнікаў, бо ў дзяцінстве выпрабавалі тое ж самае са сваімі бацькамі? А настаўнікі, лекары, святары...

Адказнасць канструктара моста за свой твор балючая, таму што ён павінен парушыцца за гэта ўласнай галавой. Літаральна ўласнай, як гэта прынята — становіцца пад слупам моста падчас праверкі ўстойлівасці, калі ў той жа час праязджае па ім калона нагружаных з берагамі грузавікоў. Такой балючасці не мусяць спазнаваць палітыкі, што зрабілі заявы без пакрыцця. Прынамсі, тут і цяпер. Тым не менш, не трэба губляць надзеі, што з часам, у бліжэйшую ці аддаленую будучыню, адчуюць вострa зруйнавальныя наступствы свайго глупства. Тым часам раскідваюцца яны абяцаннямі лёгка, не прымаючы на сябе адказнасці. Так што, калі нават зламаюць слова, слова ў сваім пераканні не так урачыста дадзенае, як грамадска зношанае, гэта і так не адыме ў іх годнасці. Бо і што тая годнасць сёння? Ну, калі ласка, самі прачытайце адпаведны артыкул у тлумачальным слоўніку. У той жа час, калі ласка, не вінавацце мяне ў кпіне. Я проста перарабіў адказ аднаго старога, вопытнага жыццём і вельмі горкага пана, якому я паставіў калісьці вельмі юнацкае пытанне, што такое справядлівасць: «Аааа, справядлівасць... Хм.... А ідзі ты ў бібліятэку, вазьмі энцыклапедыі і з іх даведаешся, што такое справядлівасць».

Апрача паняцця «годнасць» і «справядлівасць» варта пры нагодзе гартання слоўнікаў прыгадаць іншыя паняцці. Калі ласка, звярніце ўвагу, што сёння лексічнае значэнне слова «гонар», «сумленнасць», «высакароднасць» і г.д. недакладна супадае з іх практычным разуменнем. Гэта не азначае, што змяніўся іхні вызначальны абсяг. Несумненна, аднак, мы змянілі наша стаўленне да таго, што яны вызначаюць. У нас няма павагі да іх, таму што яны больш ненадзейныя. Перш за ўсё, таму, што — я думаю — яны не з'яўляюцца надзейнымі, таму што страцілі істотную рысу адчувальнасці. Ніхто не страляе сабе ў галаву, калі страціў гонар. Ніхто не выклікае на смяротную дуэль кагосьці, хто ўразіў яго годнасць. Судовыя працэсы, якія з'яўляюцца цывілізаванай формай паядынку за годнасць, за гонар, не кіруюцца шляхетнасцю або сумленнасцю, але літарай закона. А ён неабавязкова ў сваіх вырашэннях балючы для крывадушнікаў, абманшчыкаў і распуснікаў. Часам юрыдычныя хітрыкі вызваляюць іх ад любой адказнасці.

Цяжар адказнасці ляжыць у тым, што не схаваешся ад яе ані ў кустах параграфаў, ані ў лабірынце ўласнага сумлення. Параграфы могуць быць ачышчаны з людскога бруду, але сумленне трэба мець. Але як яго будаваць, напрыклад, у маладым чалавеку, калі сучасны свет вышэй ставіць рэптыльны эгаізм над грамадскай салідарнасцю, пацучыную хітрасць над сацыяльнай эмпатыяй? Свет, у якім нават так званы мат страціў сваю абразлівую сілу, як крама, якая прапануе паслясезонную продаж. Калісь этыкет неганаровага, недастойнага чалавека, або імя хулігана ці ілжывай морды эфектыўна выключалі такога чалавека з кампанейскага, грамадскага жыцця, а нават і сямейнага. Часам на ўсё жыццё. Той жа самы этыкет сёння, як надпіс «Прасоўванне» на скончаным прадукце, зніжаная цана якога, як гэта ні парадаксальна, павышае яго гандлёвую прывабнасць. Ці ўсё ў нашым свеце на продаж? І гонар, і годнасць, і сумленне?

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Управа працягу

Вось 9 лістапада ў падляшскім самаўрадзе ўсё высветлілася. У трэцім падыходзе маршалкам стаў Ежы Ляшчынскі з ПСЛ. Тыдзень таму я пісаў пра дзве няўдалыя спробы абраць маршалка. Нагадаю толькі, што падчас перадапошняй сесіі, у сувязі з адданнем трох несапраўдных бюлетэняў і выхадам з залы абражанага Яраслава Дважанскага з Грамадзянскай платформы, кандыдатура аграрніка Багдана Дыюка ад кааліцыі ПСЛ-ГП не прайшла. У гэты раз былы маршалак, а цяпер дэпутат Сейма, Мечыслаў Башко запрапанаваў на гэтую пасаду пражываючага ў Цеханоўцы былога намесніка дырэктара падляшскага рэгіянальнага аддзела Агенцтва рэструктурызацыі і мадэрнізацыі сельскай гаспадаркі ў Ломжы Ежы Ляшчынскага (54 гады). Да гэтага часу быў ён — так як і Багдан Дыюк — ПСЛаўскім членам падляшскай управы. Мечыслаў Башко прадставіў яго радным наступным чынам: «Гэта чалавек з вопытам працы ў дзяржаўных агенцтвах. Ён прайшоў усе магчымыя палітычныя ўзроўні. Гэта асоба вядомая, паважаная, а як член падляшскай управы ён вельмі добра выконваў свае абавязкі».

У ходзе тайнага галасавання яго кандыдатура атрымала падтрымку сямнаццаці радных. Нагадаю, што ў сейміку з трыццаці дэпутатаў ПСЛ мае дзевяць радных, ГП — восем, а адзін радны — ад лявіцы. У свою чаргу апазіцыйны клуб Права і справядлівасці, прадстаўлены дванаццаццю самаўрадаўцамі, запрапанаваў свайго кандыдата — раднага Лукаша Сякерку, які атрымаў падтрымку трынаццаці радных. Кандыдата ПіС, хутчэй за ўсё, падтрымаў адзін з радных ГП, што ў бліжэйшы час можа абазначаць персанальныя перамяшчэнні з клуба ГП у клуб ПіС. Новаабраны маршалак сказаў: «Я спадзяюся, што мы будзем працягваць працы, якія вызначаны ў стратэгіі 2014-2020 гадоў і ў ваяводскіх праграмах. Я спадзяюся, што, нягледзячы на шматлікія адрозненні, якія існуюць паміж намі і апазіцыйным клубам, а таксама і ў самой кааліцыі, тое, што атрымалася да цяперашняга часу, будзем працягваць».

Ён запэўніў аб гатоўнасці «супрацоўнічаць з усімі ўзроўнямі мясцовага самакіравання, грамадскімі арганізацыямі і ўсімі зацікаўленымі ў развіцці нашага ваяводства».

У час сесіі таксама была абрана астатняя частка складу ўправы. У адпаведнасці з кааліцыйным пагадненнем паміж ПСЛ і ГП віцэ-маршалкамі засталіся Анна Нашкевіч і Мацей Жыўна з ГП, а членамі надалей ПСЛаўцы — Багдан Дыюк і новаабраны Стэфан Краеўскі.

Пасля адстаўкі старшыні сейміка Мар'яна Шаматовіча абраны быў новы кіраўнік ваяводскага самаўрада. У адпаведнасці з кааліцыйным пагадненнем стаў ім кандыдат ГП, былы маршалак ад Платформы Яраслаў Дважанскі (пры падтрымцы шаснаццаці радных; дванаццаць з ПіС прагаласавалі за свайго кандыдата — Марка Камароўскага).

На наступны дзень пасля выбару новая ўправа на прэс-канферэнцыі прадставіла паўнамоцтвы маршалка, двух яго намеснікаў, і двух членаў управы. У прынцыпе падзел кампетэнцый не змяніўся. Напрыклад, маршалак Ляшчынскі назірае м.інш за дэпартаментамі фінансаў, міжнароднага супрацоўніцтва і прасоўвання ды інфраструктуры і транспарту. Надалей пад кіраўніцтвам намесніка маршалка Мацея Жыўны застаюцца дэпартаменты рэгіянальнага развіцця ды аддзела культуры і нацыянальнай спадчыны. Новы член управы Стэфан Краеўскі прыняў пад нагляд, сярод іншага, аддзелы развіцця сельскіх раёнаў. На згаданай прэс-канферэнцыі віцэ-маршалак Жыўна, спасылаючыся на заключнае выбарчае пасяджэнне, адзначыў, што выбары сталі выпрабаваннем для сеймікавай кааліцыі: «Мы перажылі гэтае выпрабаванне і зараз новы дзень працы новай управы, згодны падзелу кампетэнцый азначае, што ваяводства функцыянуе нармальна».

У той жа дзень, калі была абрана новая ўправа ваяводства, назначаная Правам і справядлівасцю на прэм'ер-міністра Беата Шыдла прадставіла склад новага ўрада. У яе кабінеце, сярод іншага, апынуўся міністр сельскай гаспадаркі Кшыштаф Юргель, шэф падляшскіх структур ПіС, які ўжо раней узначальваў гэтае ведамства з кастрычніка 2005 г. да мая 2006 г. У рамках змен ведамасных кампетэнцый перастала існаваць Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі (засталося Міністэрства лічбавізацыі). Справы нацыянальных і этнічных меншасцей, якія ў час знаходжання пры ўладзе ГП належалі МАіЛ, вярнуліся ў Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі (у час ГП — МУС). Узначаліў яго Марыюш Блашчак, былы кіраўнік Канцылярыі прэм'ер-міністраў Казімежа Марцінкевіча і Яраслава Качынскага.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# XXII Асеннія сустрэчы з беларускім фальклорам

У Чыжоўскай гміне арганізуецца многа беларускіх мерапрыемстваў, але пастаяннае сярод іх гэта Асеннія сустрэчы з беларускім фальклорам. У гэтым годзе ладзіўся дваццаць другі выпуск Асенніх сустрэч. У мінулым мерапрыемства адбывалася ў Чыжах, Кленіках, Шастакове, Збучы і Курашаве, а апошнімі гадамі — толькі ў Чыжах. XXII Асеннія сустрэчы — 8 лістапада, у дажджлівае і ветранае надвор'е — згуртавала ў вясковай святліцы мясцовых аматараў беларускай культуры. Сабраным былі прэзэнтаваны абрады, беларускія народныя і эстрадныя песні.

З-за дажджу і моцнага ветру частка найстарэйшых чыжавян засталася дома. Па асабістых прычынах не выступілі «Незабудкі» з Курашава. Нядаўна памерла Валянціна Пракапюк, сузаснавальніца калектыву гуртка пенсіянераў і інвалідаў у Чыжах «Верасы» і гэты гурт таксама не выступіў. Затое ад імя Чыжоўскай гміны ўдала запрэзэнтаваўся калектыў «Чыжавяне» з Чыжоў.

— Мы выступаем перад сваёй публікай. Гэта мабілізуе нас да працы, бо хочам паказацца як найлепш, — кажуць згодна Лена Васілюк, Галіна Максімюк і Альжбета Ціханюк. — Тут збіраецца многа публікі і мы рады, што нашых людзей цікавяць беларускія песні, з якімі мы сёння выступім.

XXII выпуск Асенніх сустрэч з беларускім фальклорам адкрыў войт Чыжоўскай гміны Юры Васілюк, які арганізаваў мерапрыемства разам з Гмінным асяродкам культуры ў Чыжах.

— У гэтым годзе ўдалося нам сарганізаваць усе вялікія культурныя мерапрыемствы, а не заўсёды гэта ўдавалася. Паспяхова арганізавалі мы беларускі фэст «Купалінка» каля Лянева і Археалагічны фэст каля Збуча. Сёння падводзім вынікі культурнай дзейнасці. Асеннія сустрэчы з беларускім фальклорам паказваюць багаты наш фальклор, які перадаецца з пакалення ў пакаленне. Побач традыцыйнага фальклору прагучаць беларускія эстрадныя песні, — сказаў войт Юры Васілюк.

У мерапрыемстве ўдзельнічалі гмінныя і мясцовыя павятовыя радныя, солтысы і гмінныя чыноўнікі, людзі сярэдняга ўзросту, маладыя асобы і шмат пенсіянераў, якія яшчэ памятаюць наш аўтэнтычны фальклор.

— Мы Асеннія сустрэчы ладзілі ў розных вёсках, але вярнуліся да пастаяннага арганізавання мерапрыемства ў Чыжах. Ладзілі сустрэчы па суботах, але па вёсках гэта працоўны дзень і старэйшым людзям хочацца вечарам адпачыць, таму вярнуліся да нядзелі, — сказаў дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Чыжах Юры Якімюк. — Сёлета мы запрасілі некалькі калектываў, якія ў нас яшчэ не выступалі. На нашай сцэне першы раз запрэзэнтаваўся калектыў «Світанак» з Беластока і адбыўся дэбют калектыву «Гутарка»(складаюць яго два мужчыны і дзяўчаты з Гайнаўкі, якія раней выступалі ў іншых калектывах). Давід Шымчук са сваім інструментальным калектывам з Гайнаўкі выступіць у Чыжах таксама ўпершыню.

— Я спачатку быў ініцыятарам заснавання ў Гайнаўцы інструментальна-вакальнага калектыву з польскім рэпертуарам. Пасля я падумаў, чаму б не выступіць па-беларуску. Мы сталі апрацоўваць і развучваць беларускія песні. Запрэзэнтаваліся летам гэтага года з беларускім рэпертуарам у Беларускім музеі ў Гайнаўцы і на беларускіх фэстах з цыкла «І там жывуць людзі», якія арганізуе белмузей. Атрымалі запрашэнне на выступ у Чыжах і рашыліся падаць заяўку і выступіць на фестывалі «Беларуская песня» ў Беластоку. Сёння ў нашым калектыве выступаюць я — Давід Шымчук, Якуб Стэрлінгаў, Марыюш Франкоўскі, Грыгорый Дружба ды Мілена Савіцкая і Марлена Добаш. Апрача спеву пачуем гукі дзвюх гітар, акардэона, флейты і кахона. Кахон — вельмі даўні музычны інструмент, а хацеўшы яго як найпрацей апісаць можна сказаць, што гэта скрыначка са спружынамі. Карыстаючыся ёю можна атрымаць рэзультат напамінаючы перкусію, — сказаў Давід Шымчук. — Мае бацькі родам з вёскі Чаромхі і Баброўнікаў, а я жыву ў Гайнаўцы. Раней пра беларускасць я не думаў і пайшоў вучыцца ў І Агульнаадукацыйны ліцэй у Гайнаўцы, а калі стаў свядомым беларусам ужо было позна, каб перайсці вучыцца ў Гайнаўскі белліцэй. Зараз частка асоб з інструментальна-вакальнага калектыву і з калектыву «Гутарка» гэта вучні і выпускнікі Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы.

Паразмаўляў я з асобамі, што належаць да інструментальна-вакальнага калектыву Давіда Шымчука. Частка з іх заявіла, што належаць таксама да калектываў «Гутарка» і «Знічка» з Гайнаўкі, а адна дзяўчына спявае ў гуртах «Гай» і «Калінка» з Беластока. Мае суразмоўцы сказалі, што любяць спяваць і падабаюцца ім беларускія песні.

— У нашым калектыве часта мяняліся салісткі, якімі былі Ада Прусіноўская, Магда Карбоўская, Мілена Савіцкая і Магда Леанчук, а частка з іх належалі да «Знічкі». Я падумаў, што сабраўшы гэтых салістак можна было б стварыць новы вакальны беларускі калектыў. Мы рашыліся назваць яго «Гутарка», бо ў мінулым вяскоўцы на лавачках размаўлялі паміж сабой і супольна спявалі, а спеў таксама быў свайго роду гутаркай. Сёння ў новым калектыве «Гутарка» спявалі Мілена Савіцкая, Магда Леанчук, Марлена Добаш і Эля Супранюк. На сённяшнія выступы мы пазычылі касцюмы ад «Знічкі», бо яшчэ няма ў нас сродкаў на свае ўборы. Мы хочам прэзэнтаваць беларускую культуру нашых продкаў, бо гэта наш абавязак перад імі, — заявіў Давід Шымчук, музычны кіраўнік «Гутаркі» і гайнаўскага інструментальнага калектыву.

Неапрацаваны фальклор займальна запрэзэнтаваў калектыў «Малінкі» з Малінік. Жанчыны і мужчыны, апранутыя ў даўнюю вясковую вопратку, размаўлялі на малінніцкім дыялекце і ўдала паказалі тое, чаму навучыліся ад сваіх бабуль і мам. Паказалі яны абрад «Юрыя», які поўнасцю абапіраўся на вясковыя традыцыі. «Малінкі» маліліся, качалі па жыце каравай, спажывалі святочнае харчаванне, закопвалі ў збожжы шкаралупінкі і костачкі, ды, прыдумаўшы свае аўтарскія дыялогі, стараліся развесяліць публіку, што ім удалося.

— Мы збіраліся ў Чыжы спешна і таксама спешна расстаўлялі рэквізіты на сцэне. Пасля ўжо з падрабязнасцямі запрэзэнтавалі абрад «Юрыя», з якім раней выступалі ў розных месцах. Зараз мала калектываў паказвае неапрацаваны аўтэнтычны фальклор, які перадаваўся з пакалення ў пакаленне. Нам хочацца працягваць такую дзейнасць, — сказалі кіраўнік «Малінак» Вера Нічыпарук і Валянціна Троц.

Калектыў «Світанак» Самаўрадавага прадшколля № 14 у Беластоку праспяваў спецыяльна падабраныя на чыжоўскае мерапрыемства творы.

— Мы ў Чыжах выступаем упершыню. Спачатку разведалі, якія песні публіка Чыжоўскай гміны любіць слухаць і стараліся падабраць на сённяшнія сустрэчы творы, якія спадабаюцца мясцоваму насельніцтву. Тут мілая атмасфера і мы рады, што сабраным спадабаліся нашы творы, — гаварылі музычны кіраўнік калектыву «Світанак» Анна Бабік і Данута Тымашэвіч (абедзве — настаўніцы).

Займальна, як і на папярэдніх асенніх сустрэчах, выступіў калектыў «Арт-Пронар» з Нарвы, які ахвотна прэзентуецца на беларускіх фэстах.

— Мы сёлета выступалі на многіх беларускіх мерапрыемствах. Бывала, што спявалі нават у некалькіх месцах у адзін дзень. Развучваем новы рэпертуар, каб наша пастаянная публіка магла паслухаць штораз новыя песні, — сказала Марыёля Герман-Петручук з гурту «Арт-Пронар» з Нарвы.

На высокім мастацкім узроўні выступіў калектыў беларускай песні «Маланка» з Бельска-Падляшскага, які ўдала прэзентуе беларускія эстрадныя песні. Цікава запрэзэнтаваўся калектыў «JBM» з Сухавольцаў, а з прадстаўленнем «Знахарка» выступіў калектыў «Асенні ліст» з Гарадка. Калектыў «Метро» з Гайнаўкі запрэзэнтаваў песні і музыку, з якімі выступаў на вяселлях і забавах.

— Зараз мы мала іграем на забавах, больш на вяселлях. Мы тут запрэзентуем творы, якія падабаюцца моладзі, якая пад нашу музыку гуляе на вяселлях, — сказаў Данель Сакоўскі, кіраўнік гайнаўскага гурта «Метро».

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**



Інструментальна-вакальны калектыў Давіда Шымчука з Гайнаўкі



«Світанак» з Беластока



«Малінкі» з Маліннік

## Сухія дрэвы

Я, радны Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета, не магу дабіцца, каб у маёй роднай вёсцы Новае Ляўкова ссеклі сухія дрэвы паабапал павятовай дарогі. Яны знаходзяцца на прыдарожнай паласе і з'яўляюцца пагрозай як для аўтамабіляў, так і пешаходаў. Асабліва тады, калі дзьме моцны вецер.

Да гэтай справы вельмі непрыхільна ставіцца загадчыца Праўлення павятовых дарог (ППД) у Гайнаўцы. Яна „цягне" справу ўжо другі год і ўсё безвынікова. Войт гміны выслаў пяць пісем. Загадчыца прыязджала на сесію Гміннай рады ў Нараўцы. Была абурана, што радны апрача пісем тэлефанаваў да яе на працу. Яна ўжо ж справу вырашае. Было гэта вясной гэтага года і — хаця мінула паўгода з таго часу — далей няма ніякага зруху. У кастрычніку г.г. быў я ў гайнаўскага старасты і справа праз тыдзень-два мела рушыць. Было такое абяцанне з боку вышэйзгаданай загадчыцы. Час няўмольна бяжыць. З сухіх дрэў у Новым Ляўкове лістападаўскія віхуры страсаюць галіны на асфальтавую маставую.

Праўленне павятовых дарог, кажуць, працуе над справай. Але, памойму, у ім патрэбны персанальныя змены. Загадчыца ППД добра працавала на самым пачатку сваёй прафесійнай дзейнасці. Вельмі хутка паклала асфальт на спрэчным адрэзку дарогі ў Старым Ляўкове каля керамічнай фабрыкі. Тут былі розныя праблемы. Юрыдычнага характару таксама.

Цяпер у ППД — па ўсім відаць — застой. У мінулым годзе камісія з ППД агледзела дрэвы да ссячэння і чырвонай фарбай намалявала свае знакі. Пасля была камісія аховы прыроды і пазначыла дрэвы сіняй фарбай. Праз год тую фарбу выпаліла сонца і змыла дажджавая вада. Трэба пачынаць маляваць нанава? І так вось усё невядома, калі ў Новае Ляўкова прыедуць дрывасекі.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Не кожнаму па кішэні...

На пабудову каналізацыйнай сеткі жыхары Кузавы Чаромхаўскай гміны чакалі больш пяці гадоў. Калі сёлета пад канец ліпеня інвестыцыя была здадзена ў карыстанне, выявілася, што на падключэнне хатняй гаспадаркі да сістэмы збору сцёкаў ад будынкаў не кожнаму па кішэні. Кошт здзелкі надта высокі, ды і закон не спрыяе чалавеку. А сутнасць справы вось такая.

Уладальнік, паводле закону, абавязаны падключыцца да сеткі на ўласны кошт. У сярэднім складае гэта суму паўтары — дзве з паловай тысячы злотых. Пры гэтым трэба дабавіць кошт геадэзічнага праекта. І ў гэтым апошнім праблема.

Наняць геадэзіста для афармлення праекта далучэння сядзібы да каналізацыі абыдзецца ў некалькі соцень злотых (мне, напрыклад, геадэзіст назваў суму 400 зл.) Адкуль узяць такія грошы пенсіянеру або інваліду?

З таго, што вядома, гмінны самаўрад пры рэалізацыі праекта пабудовы каналізацыйнай сеткі пакарыстаўся еўрасаюзнымі сродкамі і са сваёй касы выдаў адно 10% вартасці інвестыцыі. А жыхарам рэкамендуецца пакрыць стопрацэнтны кошт далучэння і зрабіць на ўласны рахунак геадэзічную інвентарызацыю. Ці гэта справядліва? **(ус)**

# АБРАДЫ НА СЦЭНЕ



Гурт з Нарвы

Дваццаць другі раз Беларускае грамадска-культурнае таварыства арганізавала агляд «Беларускі абрад на сцэне». Як адзначыў віцэ-старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Васіль Сегень, ён у календары падзей асабліва важны, таму што звяртаецца да мінулага — беларускіх традыцый на Беласточчыне, да звычаяў і абрадаў продкаў, якія дзе-нідзе захоўваюцца яшчэ, і спрабуюцца перадавацца наймалодшаму пакаленню. Сёлета ў рамках агляду выступіла адзінаццаць груп, з удзелам у асноўным старэйшых па ўзросце, для якіх прадстаўленыя абрады яшчэ ёсць у памяці жывой традыцыяй.

Агляд інаўгуравалі на сцэне сядзібы БГКТ у Беластоку 8 лістапада (другі выпуск у падляшскай сталіцы — 20 лістапада). Дэманстрацыі адбыліся таксама ў Дубічах-Царкоўных і Бельску-Падляшскім. Таксама сёлета стваральнікі тэатралізаваных абрадных сцэнак карысталіся пісьмовымі і вуснымі крыніцамі. Гэтак было і падчас першай часткі агляду ў Беластоку, дзе на сцэне выступілі ўсяго дзве групы: з Дашкольнага і школьнага Комплексу ў Нарве пад апекай настаўніцы беларускай мовы Ніны Абрамюк і дзіцяча-моладзевы «Антракт» з Бельска-Падляшскага пад наглядам Альжбеты Фіёнік. Маладыя з Нарвы паказалі «Капанне бульбы», то-бок, аднавілі традыцыі, якія суправаджалі палявыя працы. Выступілі дзеці з пятага і шостага класаў пачатковай школы, гімназісты, а таксама адзін вучань з Беластока, унук апякункі групы. Ніна Абрамюк:

— Кожны год мы прымаем удзел у гэтым аглядзе і штогод прывозім іншыя абрады. У гэтым годзе мы выкарысталі тэкст п'есы, напісанай Нінай Цыванюк. Стараемся пераказаць, як калісь капалі бульбу матыкамі і збіралі бульбы ў плеценыя кошыкі. Цяпер матыку большасць людзей выкарыстоўвае ў прыхатніх агародчыках. Калісь, па меншай меры ў парафіі Ласінка, адкуль я родам, калі хтосьці выкапаў бульбу ў сябе, ішоў дапамагаць суседзям. Намагаліся кончыць капанне да Пакровы Раней ніхто не капаў у жніўні. Калісь капаць бульбу пачыналі пасля 20 верасня, каб зрабіць гэта якраз да 14 кастрычніка. Цяпер гэтых дат людзі ў нашых вёсках больш не трымаюцца. Дзякуючы бульбаўборачным камбайнам выкопваюць бульбу на працягу некалькіх гадзін, а калісь два ці тры тыдні выворвалі плугам за канём. Сілкаваліся таксама на полі. І гэта ўсё, што я да сёння памятаю, мы хацелі пераказаць у нашай сцэнцы. Многія з нашых вучняў зацікаўлены ва ўдзеле ў такіх спектаклях і выступамі на сцэне па-беларуску, хоць большасць з іх кожны дзень — польскамоўная. У нас кожны, хто хоча, выступае. Кожнаму ролю знойдзем.

Некаторых дзяцей з Нарвы суправаджалі бацькі, між іншым, Агнешка Порац і Івона Тапалянская. У размове з «Нівай» тлумачылі, што іх дзецям даюць такія выступленні:

— Гэта паглыбляе веды аб беларускай культуры продкаў. Удзельнічаючы ў такіх спектаклях, могуць гэта адчуць. Гэта і ёсць дбанне аб свае традыцыі, пра якія так шмат гаворыцца. І, што важна, не толькі дома, але і на такіх занятках дзеці гавораць па-беларуску.

— Але гэта таксама адарванасць ад



«Антракт»

навакольнага свету. Нашы дзеці, якія прымаюць удзел у спектаклях, могуць поўнай душой чэрпаць якраз з традыцыі, а не сядзець усё перад тэлевізарам ці камп'ютарам. А магчымасць чэрпання з традыцыі з'яўляецца самай прыгожай. Пані Абрамюк усяляе ў нашых дзяцей беларускія традыцыі ўсім сваім жыццём, усёй сабою. Тым больш нам, бацькам, прыемна ёй дапамагчы ў гэтым.

Выступаючая ў нарваўскай сцэнцы Агнешка Петручук:

— Яшчэ некалькі тыдняў таму на нашых палях збіралі бульбу, дык мы думалі, што пакажам, як калісьці гэта выглядала, а таксама тое, што адбывалася падчас адпачынку пасля капання бульбы. Цяпер на такіх вялікіх палях, на якіх вырошчваецца бульба, матычкай не змаглі б яе выкапаць.

«Антракт» у сваю чаргу паказаў ужо вядомае з іншых мерапрыемстваў кароткае прадстаўленне «Дзеці. Бежанства». Альжбета Фіёнік:

— Мабыць, мы не зусім упісваемся з нашай праграмай у формулу агляду, але падчас выступлення паказваем многа абрадаў. Вядома, што ў бежанства ехалі з усім багажом, у тым ліку культурным, які ўзгадоўваўся на Беласточчыне. Везлі на Усход не толькі матэрыяльны дабытак, але і звычаі, і песні. Паказваем фрагмент мясцовага абраду, які суправаджаў жніво таксама там далёка ў Расіі тых, хто выязджаў з Беласточчыны, ці велікодныя традыцыі. Мы спрабавалі паказаць, як гулялі хлопцы і дзяўчаты, нягледзячы на жудасны час стогадовай даўнасці, што яны спрабавалі жыць там, у бежанстве, як у сябе дома, выкарыстоўваючы там усё звычаі, якія ўзялі таксама адтуль.

Малады акцёр гэтага міні-прадстаўлення Павел Кучынскі, гімназіст з бельскай «тройкі»:

— Дзякуючы падрыхтоўцы да спектакля я змог шмат чаго даведацца пра бежанства.

Дадаў пры нагодзе:

— Я б хацеў звязаць сваю будучыню з тэатрам.

Яго чатырнаццацігадовая сяброўка Паўліна Нямыйская таксама з бельскага школьнага комплексу з дадатковым навучаннем беларускай мове:

— Я шмат чула пра бежанства ад цяпер 83-гадовай бабулі, якая жыве ў Сухавольцах: як яно пачыналася, колькі людзей не вярнулася, што адчувалі людзі. Яна распавядала мне, як яно выглядала, а пані Эля Фіёнік папоўніла мае веды. Наша праграма заснавана на апавяданнях маёй бабулі. У гэтым спектаклі мы можам адчуваць сябе так, як маглі адчуваць сябе людзі ў бежанстве. У будучыні я змагу расказаць аб ім і сваім дзецям, а цяпер сваім знаёмым, якія пра гэта нічога не ведаюць.

Сярод шматлюднай публікі былі самыя старэйшыя ўзростам. Адзін з іх — Ян Лабаноўскі сказаў «Ніве»:

— Я родам з-пад Чыжоў, з Ракавіч, але на працягу многіх гадоў жыву ў Беластоку. Мне вельмі цікавы такія абрады. Толькі тут, у БГКТ, можна ўбачыць іх у Беластоку. Гледзячы, можна сабе папрыгадваць, а прытым і павесяліцца. Калі тут арганізавалі Новы год, мы з жонкай амаль кожны год гулялі. Прынамсі, восем разоў. На жаль, спынілі тут арганізаваць навагоднія балі.

Васіль Сегень, звяртаючыся да аўдыторыі, сцвярджаў:

— Мэтай гэтага агляду з'яўляецца паказанне беларускіх абрадаў, якія так хутка знікаюць з нашага жыцця, жыцця беларусаў у Польшчы. Мы хацелі б, каб яны захоўваліся, культываваліся і перадаваліся наступныя маладым пакаленням. І гэта сімвалічна, што якраз ад выступу маладых выканаўцаў пачынаем сёлетні агляд.

Апошнім штрыхом першай беластоцкай часткі агляду быў выступ калектыву настаўніц Дзіцячага самаўрадавага садка № 14 у Беластоку «Світанак». Цэнтральная частка агляду (выступяць усе групы) будзе праведзена ў Гайнаўскім доме культуры 22 лістапада. «Беларускі абрад на сцэне» завершыць сёлетні каляндар мерапрыемстваў, арганізаваных Беларускім грамадска-культурным таварыствам.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Ручнікі Гарадоцкай зямлі

Прыкладна семдзесят народных ручнікоў, пазычаных дваццаццю пяццю жыхарамі Гарадочыны, прадстаўлены 12 лістапада на адкрытай выставе ў Гмінным цэнтры культуры ў Гарадку. Кожны ўнікальны, са сваёй гісторыяй і душой. Найчасцей зробленыя з крамнага палатна, але таксама самастойна вытканыя. Упрыгожаныя плоскім гафтам або вышыўкай крыжыкам. З уласнаручнымі, мудрагелістa сплеценымі карункамі. З кветкавымі ўзорамі, хоць у карунках таксама і з птушынымі. Іх уладальнікамі, на самой справе гаспадынямі, на гэтую выставу пазычаныя, а часам і спецыяльна для гэтага выпадку дастанымі з глыбіні сундукоў. Часам, успамінаючыя сваю славу, калі ўпрыгожвалі іконы ў кутах дамоў, а часам — як адзін з іх — выратаваны са сметніцы, выпадкова знойдзены цяперашняй уладальніцай.

Уражваючая багаццем узораў выстава «Народныя ручнікі Гарадоцкай зямлі» была падрыхтавана Даротай Сульжык, майстрыхай валення, супрацоўніцай ГКЦ у Гарадку, кіраўніком «Гарадоцкіх навін». Гэта яна з красавіка пачала збіраць ручнікі па ўсёй ваколіцы, натхнёная сустрэчай з Алінай Дэмбоўскай з філіяла Падляшскага музея ў Бельску-Падляшскім, аўтаркай выставы і сааўтаркай альбома, прысвечанага ручнікам Бельшчыны. У размове з «Нівай» падчас адкрыцця прэзентацыі Дарота Сульжык прыгадвала:

— Водгалас на пачатку быў невялікі, заявілася ў пачатку толькі адна асоба, якая прынесла тры ручнікі. З часам інфармацыя, што я іх збіраю, распаўсюдзілася з вуснаў у вусны. У рэшце рэшт, сталі мне іх прыносіць: як правіла, па два або тры, але, напрыклад, солтыска Меляшкоў аж сем, таму што пазбірала і ад суседзяў. Іншыя таксама збіралі іх ад суседзяў. Яны часта былі матчыны, бабуліны і прабабуліны з іншых вёсак, чым тых, хто іх прынёс. Мы спрабавалі даведацца, на самой справе з якіх вёсак яны і з якога яны перыяду. Мала хто ведаў даволі дакладна, калі былі зроблены які ручнік. Мы стараліся, вызначыць год вяселля маці, бабуль і прабабуль, якія былі першымі ўладальніцамі, таму што яны найчасцей рыхтавалі іх на пасаг або атрымлівалі ў вясельных падарунках.

Ручнікоў з самога Гарадка на выставе было адносна няшмат. У большасці ўзніклі яны ў навакольных вёсках: Меляшках, Белявічах, Пяшчаніках або Залуках. Дарота Сульжык:

— Я разумела, што гэтых ручнікоў ужо ў кожнай хаце няма. У маім сямейным доме іх не было. У маіх бабуль яны былі калісьці, але чамусьці зніклі. Невядома калі, дзе і што здарылася з імі. Лёс ручнікоў вельмі розны. Некаторыя пазычалі камусьці, часам выкідвалі. З некаторых паабрэзвалі карункі або папрышывалі іх да абрускоў, а з самых парабілі анучкі. На выставе, асабліва на самых старых сямі ручніках, чырвона-чорных, упрыгожаных вышыўкай крыжыкам, бачым разбуральнае ўздзеянне часу. Некаторыя дзе-нідзе дзіравыя, але і ў гэтым іх харaство. Каляровая муліна з'явілася ў міжваенны перыяд і гэтыя каляровыя ручнікі — з гэтага перыяду і з пасляваеннай эпохі.

Адкуль бралі ўзоры?

— Жанчыны давалі іх адна адной для адлюстравання: адкалькоўвалі, адрысоўвалі. Ужо ў канцы дзевятнаццатага стагоддзя паявіліся кніжачкі з такімі ўзорамі. Пасля бежанства многа такіх кніжачак прыехала да нас з Расіі і гэтыя ўзоры на ручніках былі пасля адтуль.

Стваральніца гарадоцкай прэзентацыі дадае:



Дарота Сульжык у вышыванай кашулі з караваем



Юры Астапчук адкрывае выстаўку

— Некаторыя ручнікі, што вісяць на выставе, не віселі на іконе, ці агульна — не разглядаліся як святое, але былі выкарыстоўваныя ў паўсядзённай дзейнасці, напрыклад, для выцірання рук. Часам проста віселі на сцяне. Ручнік быў звязаны з лёсам чалавека: ад яго нараджэння да смерці. Заўсёды візеў на іконе: і дома, і ў царкве. Жанчына, нараджаючы дзіця, трымалася за ручнік, народжанае дзіця выціралі ў гэты ручнік, кожная жанчына выходзіўшая замуж павінна была мець тры ці чатыры ручнікі, а багацейшыя нават больш. Як нарачоная хацела адкласці шлюб, казала, што яшчэ ручнікоў не наткала. Бяднейшыя жанчыны самі ткалі, самі вышывалі, самі вязалі карунку нават у той час, калі кароў пасвілі на пашы, таму што не было часу дома. Ручнік іграў важную ролю падчас вянчання, калі на яго станавіліся. Нават пасля смерці ён адводзіў чалавека, таму што ручнікі вешалі на крыжы, і нават верылі, што пад гэтымі ручнікамі душа хаваецца сорак дзён пасля смерці. Часам яго клалі ў труну, а часам трункі дзяцей неслі на ручніку. Калісь перад небяспекай жанчыны ткалі як найхутчэй вузкія ручнікі, вязалі іх і апаясвалі ўсю вёску, каб імі яе бараніць.

Дарота Сульжык заўважыла:

— Калі параўнаць тыя, якія апынуліся ў бельскім альбоме, з нашымі, аказваецца, што ўзоры на іх падобныя: сунічкі, бэз, ружы, касачы, іншыя кветкавыя матывы. Узоры вандравалі па ўсім ваяводстве ад вёскі да вёскі і далей. Нашы ручнікі вельмі багатыя ў карункі. Ёсць на іх і птушкі, і пеўнікі, і куркі, і нават коцік. Карункі багата ўпрыгожаны ўласнаручна і ў цэлым мала на выставе ручнікоў вышываных на фабрычным палатне, большасць вышыта на даматканым ільне. Мала мы сабралі ручнікоў упрыгожаных вышыўкай крыжыкам, і яны з'яўляюцца самымі старымі і, як мяркуецца, скрываюць нейкую сімволіку, але іх інтэрпрэтацыі вельмі розныя. Як кажа Аліна Дэмбоўская, сёння, аднак, цяжка расшыфраваць тую сімволіку.

Айцец мітрафорны Мікалай Астапчук падчас адкрыцця выставы падзяліўся сваімі назіраннямі з яе ўдзельнікамі:

— Калісь ручнікі ўпрыгожвалі іконы, у якіх не заўсёды былі прыгожыя рамы. Часам, аднак, здараліся крайнасці. Жанчыны стараліся прыўкрасіць ручнік як найпрыгажэй і як найлепш прадставіць яго на іконе. Так што часта толькі вочы Маці Божай ці Спаса было відаць. У царкве таксама ручнік меў асаблівае прымяненне пры вітанні архіпастыра. Калі ўладыка наведваў нейкі храм, тады стараста вітаў яго хлебам пакладзеным на ручніку, вышываным найчасцей жонкай старасты. Гэта быў знак асаблівай добразычлівасці вітаючых.

працяг ☞ 11

## Думкі пра родную мову

Ад 6 да 8 лістапада праходзіў 22 Фестываль «Бардаўская восень — 2015». Першага фестывальнага дня ў Бельску-Падляшскім не магло не быць і нас — моладзі Гайнаўскага белліцэя, вучняў першых і другіх класаў. Мы выслухалі ўсе конкурсныя творы. Найбольш нам спадабалася выступленне групы з цікавай назвай «Хмарка на траве». Потым мы паглядзелі два канцэрты — Сяргея Башлыкевіча і гурту «Navi», якія таксама выклікалі ў нас пазітыўныя пачуцці. Мы, школьная моладзь, былі нешматлікімі такімі прадстаўнікамі сярод публікі ў зале Бельскага дома культуры. Дык, дзякуючы спадару Янку Карчэўскаму і дырэктару Яўгену Сачко, якія наладзілі нам выезд, мы маглі там быць і захапляцца беларускай песняй. Ужо сёння магу сказаць, што праз год я напэўна туды зноў паеду.

Калі ідзе пра такія культурныя мерапраемствы, дык можна прыкмеціць, што штораз менш паяўляецца на іх маладых людзей. З жалем гляджу на тое, што асобы ў маім узросце адмаўляюцца ад гэтага. Яны пакідаюць родную мову. Не хочуць яе вывучаць, лічаць яе лішняй.

Таксама як важная ёсць гісторыя і польская культура, у нашым рэгіёне важнай спадчынай з'яўляецца беларуская мова і культура. Гэта ж спадчына нашых бацькоў, дзядоў і прадзедаў, якія пражываюць на Беласточчыне спакон вякоў. Яе трэба развіваць і дагляцаць. Як прадстаўнік маладога пакалення, звяртаюся да маіх сяброў:

— Не пакідайце роднай беларускай мовы, не забывайце яе! Ведайце, што без Вас гэтая мова загіне, а для многіх людзей гэта важная рэч, без якой яны не ўяўляюць свайго жыцця. Мы не можам прычыніцца да таго, каб такая прыгожая мова знікла з зямлі. У нашых руках гэта, ці нашы дзеці будуць ведаць беларускую мову і ці будуць яе перадаваць далей. У душы веру, што ў маладых людзей адчыняцца вочы і родная мова будзе для іх чымсьці больш, як толькі матэрыяльнай рэччу. Што яна будзе духовай каштоўнасцю ў жыцці.

**Наталля Васько**
І клас Гайнаўскага белліцэя

## Час перайсці да спраў

12 лістапада прэм'ер-міністр Ева Копач падалася з урадам у адстаўку. Уладу перaняло Права і справядлівасць. Групоўка Яраслава Качынскага ў значнай ступені перамагла як на прэзідэнцкіх, так і на парламенцкіх выбарах. ПіС са сваім прэзідэнтам і большасцю ў Сейме і Сенаце можа ўводзіць і ажыццяўляць свае праекты законаў. Што чакае краіну ў бліжэйшыя чатыры гады, цяжка сказаць...

У час выбарчай кампаніі кандыдат на прэм'ер-міністра Беата Шыдла абяцала правядзенне шматлікіх рэформаў у сферы падаткаў, пенсіённага ўзросту, адукацыі, аховы здароўя, у тым ліку бясплатных лякарстваў для грамадзян, якія закончылі 75 год жыцця. Мяне, пенсіянера, гэтая справа найбольш хвалюе. Хацеў бы затым запытаць новы ўрад: ці хворыя, пажылыя пенсіянеры могуць спадзявацца большых пенсій, бясплатных лякарстваў, свабоднага доступу да спецыялістаў і скарачэння тэрміну чакання неабходных аперацый? Якія прыярытэтныя справы пачне вырашаць кабінет прэм'ер-міністра Беаты Шыдла ў бліжэйшы трохмесячны перыяд? З таго што прыпамінаю, Права і справядлівасць публічна заявіла пра пакет гатовых законапраектаў на гэты тэрмін. Аднак не былі яны абнародаваны. Выбарчая кампанія закончылася. Час затым перайсці да спраў...

**Уладзімір СІДАРУК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


# У Бабіках усё разумелі са слыху

Гульні з літаркамі, вершыкі і песні — гэтак прывіталі нас старэйшыя вучні з Бабікаў, што на Сакольшчыне. Словам, шмат тут забавы, песень і адукацыйных гульняў. Як нідзе, хацелася распавесці пра нашу газету, круг аўтараў і чытачоў «Зоркі». Чаму? Адразу, калі толькі пайшла размова, у класе запанавала ціш і засяроджанасць. Дзеці ўсё разумелі.

Такое ўжо здараецца не часта. Многія навучэнцы беларускай мовы засвойваюць словы на памяць, а пасля, калі канчаецца навука, выкідаюць іх са сваёй галоўкі. Інакш, калі мова натуральна жыве ў сям'і, гучыць з вуснаў мамы, любімай настаўніцы...

Школа ў Бабіках невялікая, усяго 47 дзетак. Палова з іх ходзіць на ўрокі беларускай мовы. З гэтымі ўрокамі спалучаюцца файныя паездкі ў Беларусь і Беласток. Вучні пабывалі на экскурсіі ў Гародні і Навагрудку. Там адшукалі сляды Адама Міцкевіча, патрона сваёй школы. Любяць таксама прыязджаць на дэкламатарскі і тэатральны конкурсы ў Беласток. Таксама спадабаўся візіт да сяброў з беластоцкай «чацвёркі». Па сённяшні дзень успамінаюць музычны спектакль «Звярнякі з глыбінкі», які пабачылі ў «Склепе з культурай». Нават запамяталі песню ў выкананні Зосі Конюх пра «Жука з Жукоў».




Старэйшыя вучні з настаўніцай Таццянай Андрацкай



Фота Ганны Кандрацюк

Як не цікава, гэты твор тут спалучаюць з падсакольскай вёсачкай Жукі (такая вёска ёсць таксама ў наваколлі Кляшчэляў).

На жаль, заняткі беларускай мовы адбываюцца ў дзвюх групах: малодшай (класы I-III) і старэйшай (IV-VI класы). У такой сістэме складана навучыцца пісаць і чытаць. Невыпадкова вучні з Бабікаў ніколі не прыступалі да прадметнага конкурсу. Такі выклік тут не пад сілу. Шкада, бо мала дзе як у гэтай школе дзеці разумеюць мову са слыху. Яны таксама хутка засвойваюць вымаўленне, націск. Гэтыя здольнасці відавочныя ў час дэкламатарскіх конкурсаў. Тады Сакольшчына на першым месцы.

Навошта напамінаем вам пра саліднае вывучэнне асноў мовы? Пра ўдзельніцтва ў прадметных конкурсах? Гэта ж шмат працы!

Тут адказ просты і ясны. Удзельніцтва ў прадметных конкурсах найбольш спрые ў вашым асабістым развіцці. Дапамагае самастойна навучыцца чытаць і пісаць. Без гэтага, хоць у нас шмат музычных і мастацкіх поспехаў, мы далей непісьменныя (!).

Урэшце поспехі ў прадметных конкурсах і алімпіядах дапамагаюць дастацца ў лепшую школу і ва ўніверсітэты. Гэта вялікі шанц для вясковых дзяцей і школ, якія такім чынам могуць падняць свой узровень навучання і пазітыўны настрой.

**Зорка**

**Кася Літвін,**
шосты кляс Непублічнай падставовай школы ў Залуках

## Хатняе заданне

Вее вецер у полі,
А Янка вучыцца ў школе,
І прыйшло пытанне:
— Ці адрабіў я хатняе «заданне»?
Падышла настаўніца і пытае:
— Хлопчык, пакажы сваё заданне!
А Янка гаворыць нясмела:
— Настаўніца дарагая,
Мяне рабаўнікі дарвалі
і заданне ўкралі!

## УВАГА КОНКУРС! № 47-15

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 29 лістапада 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

Лясная драпежная птушка.
Ніколі не спіць уначы.
Напэўна, не мае падушкі.
Ці, можа, ад страху крычыць?
С...
(Іван Карэнда)

Белым пухам замяло,
і палеткі, і сяло...
Мост праз рэчку хутка ляжа.
А што гэта, хто адкажа?
З...

**Адказ на загадкі № 40-15:**
**Вавёрка, рака.**
Узнагароды, майку з лагатыпам Радыё Рацыя, выйгрлі Віялета Смалюк з Арэшкава і Магдалена Стоцкая з Нараўкі. Віншуем!

# Лявон Тарасэвіч у Гарадку

— А чаму вы малюеце пальцамі? — спытала дзяўчынка. — Чаму замест пэндзля разводзіце фарбы голымі рукамі?

— Бо гэта такая аснова, — адказаў мастак Лявон Тарасэвіч. — На першых занятках у Акадэміі мастацтва, калі прыходзяць новыя студэнты, прафесары кажуць адкласці ўсе прылады і забыць тое, чаго ўжо навучыліся. На пачатку трэба намаляваць штосьць голай рукой. Гэта дапамагае зразумець, што ў мастацтве найважнейшы чалавек, яго здольнасці і думкі, а не прылады і гатовыя ўзоры.

Эліза Матус і настаўніца Ірэна Матысюк

Сустрэчу з мастаком Лявонам Тарасэвічам наладзілі ў аграмаднай, спартовай зале. Невыпадкова. Прыйшлі амаль усе вучні і настаўнікі са школы ў Гарадку. Размову папярэдзіў фільм «Modry». Кінакарціна апавядае пра новы праект мастака ў Сілезскім музеі ў Катавіцах. Ён знаходзіцца ў старых, закрытых шахтах. Мастацкі твор мае форму аграмаднай глыбы, у якой найважнейшая сярэдзіна. Яна «кіпіць» гарачымі колерамі. Фільм паказвае паасобныя этапы стварання твора. Тут відавочная не толькі вынаходлівасць мастака, але і яго цяжкая, фізічная праца.

Не менш цікавы каментарый мастацкага апекуна праекта Анды Ротэнберг. Яна гаворыць пра беларускае паходжанне мастака і яго праваслаўнае веравызнанне. Гэта дазваляе на большае зразуменне сілезскай душы. Мастак умее прыкмеціць аналагі паміж сваім і сілезскім светам. Ён паказвае, што знешняя форма не заўсёды адлюстроўвае характар. Тое, што звонку здаецца нам нецікавым і суровым, пры бліжэйшым знаёмстве можа ачараваць сваім унутраным бляскам і шматколернасцю. Такія словы можна сказаць пра нашае Падляшша.

Лявон Тарасевіч — мастак сусветнай вядомасці, выпускнік школы ў Гарадку. Таму сустрэча мела цёплы, сямейны характар. Настаўнікі не хавалі слоў прызнання і гонару за свайго выдатнага выпускніка. Спатканне адбылося 8



кастрычніка г.г. Яно прынесла шмат роздумаў і спадзяванняў на будучыя тыдні і месяцы. Сам Лявон Тарасэвіч паабяцаў нешта намаляваць супольна з гарадоцкімі вучнямі.

**ЗОРКА**

**фота Ганны Кандрацюк**

*Міра ЛУКША*

## Яблыня

Старая каравая яблыня
ў забытым садзе пакінутай вёскі
штовесну абліваецца
бела-ружовай пенай квецця.
Над яе старадаўняй галавой яснае неба.
А яблыкі ў яе цудадзейныя:
хто з'есць, адразу маладзее.
Ды няма каму сказаць пра гэта
і з'есці той маладзільны яблык.
Яблык — сімвал юнацтва і неўміручасці
з райскага дрэва на сіратлівай зямлі.

**Наталля АЎЛАСЮК**
**ПШ імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку**

## Сябар

**На мінулым тыдні памёр мой сябар. Яго звалі Кандрат. Яму было 15 гадоў. Ён быў маім суседам. Мы ўсё жыццё сябравалі. У апошні час ён цяжка хварэў. Прымаў многа лякарстваў. Яны яму не дапамагалі. Белакроўе перамагло.**
**Шкада, што Бог вызначыў яму такую дарогу.**

## Вершы Віктара Шведа

### Выдатнік

Са школы вяртаецца
Вучань-франт дахаты,
А з ім сустракаецца
Паліцыянт зухаваты.

— Як табе падабаецца
Мундзір, нашая роля?
— Не найлепш успрымаецца,
Я ж выдатнік у школе.

### Бабуля сімулянтка

Настаўніца вучня пытае:
— Чаму, калі мы маем
Класную працу ў школе,
Цябе няма ніколі?

Заўжды ад цябе мы чулі,
Што хворая была бабуля.
— Мы таксама падазравалі,
Што бабуля сімулявала.

## Польска-беларуская крыжаванка № 47-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Leśniczy / Szczyt | | | | | | | Wieloryb | Kucharka | Moc | |
| | | | Lis / Port | | Bierz | | Mech | Motyw | | |
| | | Jak / Miara | | Stół | Tak | | Ciocia | | | |
| | Most / Wąs | | | | | Zabawka | | | | |
| Śmigłowiec / Zespół | | | | | | | | | | |
| | | | | | | Cyrk | | | | |
| | | | Osa | | Miau | | | | | |

**Адказ на крыжаванку № 43:**

Звон, брава, Ада, бяроза, прырода, блакіт, імша, во, парог. Рата, рабы, вярба, арол, ода, вазак, од, Іво, на, стог.

Узнагароды, ільняныя сумкі з беларускімі узорамі, выйгралі **Клаўдзія Сікорская**, **Конрад Казоўскі** з Міхалова, **Кацярына Лаўрашук** з Бельска-Падляшскага, **Клаўдзія Галінская** з Беластока, **Тамаш Харкевіч** з Нараўкі, **Оля Буслоўская, Міхаліна Шыманская, Аляксандра Асташэўская** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Аляксандра Куптэль, Віялета Смалюк** з Арэшкава. Віншуем!

# Апошні подых уснарскага двара

**Уснар-Верхні — сапраўды верхні. Узвышаецца ён над палямі, перарэзанымі ад усходу беларускай, лясной паласой. Удалечыні бялеюць будынкі калгаса, калісь братняга, сёння чужога Уснара-Дольнага. Адзін і другі знаходзяцца дакладна ў палове простай дарогі паміж Крынкамі і Адэльскам, па абодвух баках калісь галоўнай дарогі з Крынак у Гародню.**

Шмат тут кантрастаў паміж тлустым прошлым, а худым сённяшнім. Маленькія драўляныя хаткі, вядома, у большасці пустыя, злічыць можна на пальцах дзвюх рук. Пасярэдзіне — маленькая, вузкая брукаваная вуліца і пахілены ад старасці драўляны каталіцкі крыж. Напрыканцы вулачкі — руіны вялікай хаты з каменя ў стылі архітэктуры васямнаццатага стагоддзя. Пару метраў далей вялікі дзядзінец з рэшткамі вялікіх каменных будоўляў. Ад усходу — франтам да мяжы — вялікая, быццам замкавая вежа з жалезнай харугвай, а на ёй вялікая дата 1777. Стаіць яна на самым краі вялікай уснарскай гары. Вежу называюць лядоўняй, таму што калісь ахаладжвалі тут мяса і малако. Пад гарой дзіка растучая альшына, астаткі дворскіх сажалак, садоў і агародаў. На гары, у каменным кругу колішняга двара, некалькі маленькіх хатак. Яшчэ там нехта жыве, нават круціцца па дзядзінцы, нягледзячы на халоднае, восеньскае надвор'е.

— Трэба нешта рабіць, каб не звар'яцець, — вітае мяне чыста па-беларуску Януш Эйсмант — адзін з гаспадароў таго ж дзядзінца.

Жыве ён тут з жонкай, па-суседску ёсць яшчэ малодшы брат, таксама з жонкай. Апошнія з роду ўладальнікаў маёнтка, апошні подых вялікага уснарскага двара.

Януш Эйсмант нарадзіўся ў 1937 годзе. Гісторыю двара ведае выключна з аповедаў сваіх продкаў. Ніякія здымкі ні дакументы ў яго не захаваліся. Аднойчы любіцель генеалогіі з Ліпска над Бобрай спісаў яму сямейнае дрэва. Зберагаецца яно ў зручным месцы, у кухоннай пасуднай шафе, каб не трэба было доўга шукаць. Часта ім карыстаецца, асабліва калі заглядаюць сюды турысты. Спадар Эйсмант не ведае як і калі ўзнік уснарскі двор, чуў толькі, што яго ўласнікам быў пасол сойма Дамінік Стажыньскі, адзін з тых, што прынялі Канстытуцыю 3-га Мая. Потым двор перайшоў у рукі халасцяка Грушэцкага — сасланага ў Сібір за ўдзел у студзеньскім паўстанні.

— Вельмі быў добры для людзей, — гаворыць спадар Эйсмант. — Уся вёска прасіла казакаў, каб яго не забіралі.

Канфіскаваны царскай дзяржавай маёнтак паўстанца набыў прадзед спадара Януша — Тодар Эйсмант, народжаны кіламетр за Юраўлянамі ў цяпер беларускіх Рэпаўцах. Сам паходзіў з беднай сям'і, але жонку меў дастатковa багатую. Пачаткова гаспадарыў як прымак ва Уснары-Дольным. Пасля смерці цесцяў жончын брат прагнаў іх з хаты. Уснарскі маёнтак разрастаўся з кожным годам. Тодар аказаўся выдатным гаспадаром і строгім бацькам. Меў пяцёра сыноў і дзве дачкі. Бацькавай волі не паддаўся толькі сын Юльян. Закахаўся ў Анну Ахрым з Сухініч пад Бабікамі — бедную, простую, а да таго замужнюю. Заплаціў жыдам сто рублёў і ўцяклі ў Амерыку. Там нарадзіліся ім дачка і два сыны.

Астатніх сыноў і дачок Тодар пажаніў сам. Усе будучыя нявесткі былі вымушаны ўнесці па 1000 рублёў пасагу. Грошы ішлі толькі на закуп зямлі. Сам яе выбіраў, сам здзяйсняў фінансавыя пагадненні. У лепшых часах уснарскі двор налічваў 200 гектараў.

— Двор быў элегантны, з каменя, — успамінае спадар Эйсмант, — з уязнымі варотамі і гаспадарчымі будынкамі шырыні каля 15 метраў, а даўжыні па 70 метраў кожны. Унізе за вежай у вялікай хаце жыла служба. Адных садоў было 7 гектараў. На жаль, тры разы гарэў. Першы раз у 1905 годзе. Знайшліся такія, якія яго спалілі, з нашай вёскі.



Руіны двара



Януш Эйсмант

За гэта цар на Сібір іх саслаў, ужо не вярнуліся. Другі раз гарэў у 1914 годзе. Агонь падклалі жыдоўскія дзеці, таксама з нашай вёскі. Трэці, мабыць найвялікшы пажар, быў у 1963 годзе. Ізноў на дзецях усё скруцілася.

Два тыдні быццам пагашаны агонь аднаўляўся. Прыехалі тры пажарныя каманды — дзве польскія і адна з Беларусі. Толькі адно гумно засталося. Усё астатняе трэба было разабраць. Мур з вапняку і каменя, які выстаяў два папярэднія пажары, пакрышыўся ад вады, якой яго аблівалі. Худзець двор пачаў у міжваенны перыяд. Пасля смерці Тодара ў 1921 годзе чатыры сыны падзяліліся маёнткам. Два засталіся жыць у панскай вялікай мураванцы, а два на тым жа дзядзінцы яшчэ ў 1911 годзе паставілі сабе вялікую драўляную хату, якая цяпер пустуе і хіліцца да зямлі. У 1938 годзе польскія ўлады дворскую зямлю скамасавалі, скурчылі да 120 гектараў. Усё астатняе аддалі бедным. Чатырох сыноў Тодара атрымалі па 30 гектараў кожны. Потым нараджаліся ім дзеці, а зямля пераўтваралася ў штораз меншыя і меншыя ўчасткі. Бацька спадара Януша атрымаў усяго 15 гектараў. Гаспадарыў сам. Яго жонка Галена Ігнатовіч пільнавала маёмасці ў сваіх родных недалёкіх, цяпер беларускіх, Праневічах.

Эйсманты паўставалі з нічога, былі звычайнымі гаспадарамі, далёкімі ад палітычнай ці культурнай дзейнасці. Жылі ціха і спакойна. Баба спадара Януша, Юзэфа з Булатэвічаў родам з Кліна, карміла вярнуўшыхся з бежанства жыхароў навакольных вёсак, у тым ліку Гаркавіч. За гэта пазней камуністычная вёска абараніла іх перад ссылкай у Сібір.

— Але каб у Сібір папасці, неабавязкова трэба было быць багатым, — сцвярджае спадар Эйсмант. — Забіралі і бедных. Хапала такіх, што даносілі. Сказалі брацъ і бралі. З Уснара павезлі Шчансновіча. Жыў ён у першай мураванцы за маёнткам. Яго сын закончыў Віленскі ўніверсітэт. Астатнюю лусту хлеба ад рота адымаў, каб сына вывучыць. За гэта аж у Казахстан яго адправілі, разам з жонкай і дзвюма дочкамі. Калі прыехалі за імі ўначы, адзін сын выскачыў праз акно. Пяць гадоў там прабылі. Бацька замерз і памёр, вяртаючыся з фермы ў калгасную хату. Ва Уснар вярнуліся толькі маці і дзве дачкі. Іх вучаны сын у 1939 годзе пайшоў на вайну ў польскую армію і папаўся ў рускую няволю. Везлі яго ў Катынь, але не быў ён ніякім афіцэрам, таму не забілі. Потым папаў у армію Андэрса. Быў на Блізкім Усходзе, потым пад Монтэ-Касіна, а на канец у Лондане. 250 тысяч польскіх жаўнераў туды паехала. Англічане баяліся, каб паўстання не сарганізавалі, каб не збунтаваліся. Па цэлым свеце іх парассылалі, між іншым у Аўстралію і Канаду. Пасля вайны разам з сям'ёй прыязджаў сюды некалькі разоў.

На Сібір не саслалі, але зямлю забралі. Фактычна забралі яе суседзі з Уснара. Прыйшлі, сказалі: ад сёння гэты і гэты тваю зямлю робіць і ўсё. Калгаса сарганізаваць тут не паспелі, быў ён, мабыць, толькі ў Гаркавічах.

У 1944 годзе саветы засталіся, каб граніцу рабіць. Да 1948 года Уснар знаходзіўся ў СССР. Гаспадароў абклалі вялікімі падаткамі. Гэтыя налогі працягваліся да сямідзясятых гадоў. Бацька тлустую карову прадаў, а грошай хапала толькі, каб гарэлкі ў Крынках напіцца. Так будавалася Народная Польшча. А цяпер нашы паны ўсё прадалі і нічога апрача даўгоў у гэтай краіне не засталося.

Не засталося і дворскай зямлі. Аддалі яе дзяржаве ўзамен за земляробчую пенсію. Сапраўдны шляхціц мог не наесціся ўволю, але на чарговы кусок зямлі грошай ніколі не шкадаваў.

— Ну яго з гэтымі гектарамі. Калі нехта мае іх шмат, то яшчэ нешта камбінуе з датацыямі, а такому з дзесяццю гектарамі зусім не аплачваецца. Цяпер жывецца як у міжваенны перыяд, значыць, прадаў карову і купіў пеўня. Тады таксама было цяжка прадаць збожжа, а і прамысловасці ніякай не было. Толькі за камуны нічога не марнавалася: ні збожжа, ні воўна, ні шкляная бутэлька.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Высяленне з пушчы (4)

Шмат хто з нас павінен помніць верш Янкі Купалы „Хлопчык і лётчык", у якім юнак лётае ў сваіх снах, марыць узняцца ў недасягальны звычайна свет. Гэтая мара не новая, не паявілася яна толькі з паяўленнем лятальных машын. У неба хацелі заглянуць вавілонцы, будуючы слаўную вавілонскую вежу; у неба хацеў узняцца міфічны Ікар. Агульна: людзі марылі пра незвычайнае, пра геройскія подзвігі, якія знайшлі адлюстраванне ў розных міфах; хіба не было такой людской супольнасці, якая б не мела міфічных мараў. Найбольш вядомай стала старажытнагрэчаская міфалогія — не толькі са згаданым Ікарам, але і з незвычайнымі подзвігамі такіх герояў, як Геракл ці Ахіл. Вось Геракл перамагае жахлівую лернейскую гідру, пачварнага нямейскага льва, магутнага крыцкага быка ды шмат іншых страшэнна азвярэлых істот. Гераклавы трафеі Зеўс павесіў на небе ў выглядзе сузор'яў; некаторыя з іх па сённяшні дзень у астралагічным плане маюць вызначаць нашы лёсы, напрыклад Леў ці Бык. У нябесным арэапагу апынуўся таксама і паляўнічы — Арыён...

Старагерманская міфалогія таксама мае сваіх герояў, а ў ліку галоўных шляхетны Зігфрыд. У яго, як у Ахіла пята, ёсць уразлівае месца на спіне, праз якое дасягне яго гібель. Зігфрыд на паляванні, быццам Геракл, змагаецца са страшэннымі звярамі: ён кладзе буйвала, льва, зубра, аленя, чатыры туры, чарговага аленя і, на канец, кабана... На матывах гэтых легенд нямецкі кампазітар Рыхард Вагнер напісаў цыкл опер. Гэтая міфалогія стала таксама свайго роду падсілкаваннем пазнейшай нацысцкай ідэалогіі, якая прысабечыла сабе легендарнае звышчалавечае геройства...

У час Першай сусветнай вайны ўступілі ў бой самалёты. Самым выдатным асам нямецкай ваеннай авіяцыі аказаўся Герман Герынг. Верагодна, што ў час дзяцінства марыў ён пра тое, пра што мараць і іншыя хлапчукі. Мараць жа адны быць геройскімі партызанамі, іншыя доблеснымі піянерамі і камсамольцамі, а некаторыя нават НХЛаўскімі хакеістамі. Герынг жа, напэўна, таксама марыў стаць пераможцам, не толькі ў паветры, але і на зямлі, гэтак жа як і легендарны Зігфрыд; паляванне стала ягоным хобі. Заслужаны ў баях, ён неўзабаве ўступіў у нацысцкую партыю і хутка перамяшчаўся па прыступках кар'еры, якая прадвяшчала панаванне над цэлым светам „звышчалавечай" расы; ён стаў другой паводле рангу асобай у гітлераўскай дзяржаве. І як апантаны паляўнічы захацелася яму, перадавому „звышчалавеку", запаляваць не на звычайную звярыну, але на звышзвярыну.

У пачатку 1920-х гадоў, калі Герынг уступае ў гітлераўскую партыю, нямецкія генетыкі, браты Гайнц і Люц Хек, якія працавалі загадчыкамі заалагічных паркаў Берліна і Мюнхена, зацікавіліся магчымасцю рэстытуцы вымерлых парод звярыны. Гэтае ж пытанне было па душы і першаму паляўнічаму Рэйха — у полі іх зроку апынуўся, у першую чаргу, тур. Даведнік: „Першабытны бык, тур, вымерлая млекакормячая жывёла сямейства пустарогіх атрада парнакапытных. У другой палове антрапагенавага перыяду быў пашыраны ў лесастэпах і стэпах Усходняга паўшар'я. Продак еўрапейскай свойскай буйной рагатай жывёлы. Маса яго дасягала паўтары тоны пры вышыні да двух метраў. У канцы антрапагену туры прыкметна здрабнелі і распаліся на буйную і дробную расы. У эпоху неаліту дробная форма была прыручана, а буйная існавала ў прыродзе да позняга сярэднявякоўя".

Сярэднявечны смаленска-чарнігаўска-кіеўскі князь Уладзімір Манамах так успамінаў паляванне ў сваім Павучэнні: „А вот что я в Чернигове делал: коней диких своими руками связал я в пущах десять и двадцать, живых коней, помимо того, что, разъезжая по равнине, ловил своими руками тех же коней диких. Два тура метали меня рогами вместе с конем, олень меня один бодал, а из двух лосей один ногами топтал, другой рогами бодал; вепрь у меня на бедре меч оторвал, медведь мне у колена потник (лямец пад сядлом — А. В.) укусил, лютый зверь вскочил ко мне на бедра и коня со мною опрокинул. И Бог сохранил меня невредимым. И с коня много падал, голову себе дважды разбивал и руки и ноги свои повреждал — в юности своей повреждал, не дорожа жизнью своею, не щадя головы своей". Бравы быў князь...

Зыгмунт Глогер так пісаў пра тура: „Zygmunt Herberstein, poseł cesarza Ferdynanda, w latach 1516-1551 trzykrotnie przejeżdżał przez Polskę Mazowsze i puszczę Białowieską do Moskwy w misyi namówienia władcy tamtejszego do przyjęcia katolicyzmu. Podług Herbersteina, który poznał dobrze Polskę, zasługuje więc na wiarę, tury znajdowały się w XVI w. już tylko na Mazowszu, żubry zaś zarówno na Litwie, jak i na Mazowszu w okolicach Sochaczewa i Ostrołęki. Gratiani powiada, że w Mazowszu blizko Rawy znajdują się trzody turów, których pod karą śmierci nie wolno nikomu strzelać, prócz samego króla. Cielęta ich, wypuszczone z obory, rozkosznie biegały i igrały z sobą. Król i przedniejsi z Polaków karmią się ich mięsem, wystawiwszy je najprzód na mróz. I ja je kosztowałem — powiada Gratiani — i niewiele różnem od zwyczajnej wołowiny znalazłem". Апошні тур здох у 1627 годзе ў каралеўскім запаведніку ў Яктараве, што больш-менш пасярэдзіне між Варшавай і Лодззю.

Браты Хек у сваёй маладосці захапляліся апісаннямі палявання Зігфрыда з „Песні Нібелунгаў", якое мела адбывацца ў лясах Эльзаса. Іх цікавілі два віды жывёл, якіх палічылі адпаведнай для „звышчалавекаў" звярынай: зубры і туры. Вяртанне гэтых звяроў у германскі ландшафт яны палічылі базавай задачай для будовы нямецкай нацыянальнай ідэнтычнасці, сугучнай з нацысцкімі міфамі. Да таго ж лічылі яны, што ландшафт на Усходзе знявечаны тамашнімі „неадпаведнымі" жыхарамі. На Усходзе меў паўстаць цалкам дзікі лясны комплекс ад Белавежскай да Аўгустоўскай пушчаў, рыхтык на тэрыторыі цяперашняй „тутэйшай" Усходняй сцяны, у якім дазволена было б прабываць адно паляўнічым „чыстай арыйскай" расы... А сам Герынг, „новы Зігфрыд", меў адрадзіць міфічныя паляванні на буйную звярыну — на паляванні ён, як і ягоны легендарны кумір, выбіраўся з кап'ём у руках...

Дзеля здзяйснення гэтай задачы былі вызначаны адмысловыя гадавальнікі зуброў і выводжваных паводле генетычных праектаў новых „тураў". Некаторыя зубры з Белавежскай пушчы былі перавезены ў адмысловы, апякаемы Герынгам запаведнік паблізу Берліна. Там яны мелі быць крыжаваны з больш дзікімі канадскімі бізонамі... Наконт тураў браты Хек былі перакананы, што ў грудзях кожнай каровы б'ецца сэрца турава сэрца. Новы „тур" паўстаў цягам 1930-х гадоў са скрыжавання іспанскіх лютых быкоў (з такім характарам яны вельмі прыдатныя для карыды) з прымітыўнейшымі пародамі быдла з Шатландыі, Корсікі і Венгрыі. Атрымаліся мускулістыя, моцныя жывёлы з масіўнымі рагамі, якія паказваліся як сімвалы магутнасці кіраванай „звышчалавекамі" дзяржавы. Жывёлы не дасягалі паўтараметровага ўзросту, важылі да шасціста кілаграмаў, былі ўстойлівыя да холаду. Новая, „арыйская" парода выводзілася спярша ў заапарках Берліна і Мюнхена. Пазней, у 1938 годзе, іх берлінскі статак быў выпушчаны ў спецыяльны запаведнік ва Усходняй Прусіі, а ў 1942 годзе трапіў у Белавежскую пушчу. Жывёлы, якіх трымалі ў берлінскім заапарку, загінулі ў час штурму горада ў 1945 годзе. Захаваліся тыя, што былі ў Мюнхене і яны пасля трапілі ў іншыя краіны, м.інш. у Нідэрланды і Вялікабрытанію, дзе частка гэтай пароды пражывае і цяпер. Братам Хек не ўдалося адрадзіць тура; заміж яго выгадавалі яны сваім нацысцкім кумірам новую пароду кароў, якая, у адрозненне ад дамашніх, магла саматужна жыць на прыродзе; новы прыплод атрымаў названне быдла Хека або кароў Гітлера...



■ Магіла нараўчанскіх яўрэяў каля Заблоччыны




■ Магіла жыхароў Лукі і Тарнопаля

Мікалай Раманчук: — На Масеве было каля сарака тых буйвалаў. Расла трава, ніхто ў вайну нічога не араў; так як і цяпер, калі ўжо ніхто нічога не арэ. Цяпер то яна ўжо сухая, а тады на палях сама добрая трава расла. Людзі не ведалі, але тыя, што працавалі лоўчымі ў немца, гаварылі, што Герынг прыслаў сорак штук буйвалаў: самак і самцоў. То адзін мой знаёмы, што ў вайну ў Семяноўцы жыў, прыхаваў быў вінтоўку і расказваў пасля вайны: „Прыеду, выму з дупла, стану, а буйвалы ходзяць, не ўцякаюць, не тое, што алені. Прымеру, жахну, абдзяру, у мяне ўжо ражачкі былі нарыхтаваны для таго мяса. А добрае мяса было...".

Белавежская пушча разглядалася нацыстамі як найлепш захаваны „старагерманскі" лес, таму яна ў першую чаргу падпала пад ачыстку з неарыйскага насельніцтва; месяц пасля захопу ее, у ліпені 1941 года немцы выселілі з яе абшару карэннае насельніцтва...

Вытрымкі з дзённіка 322 паліцэйскага батальёна: „31 ліпеня 1941 года. Эвакуіравана 12 мясцовасцей каля Нараўкі з 1619 жыхарамі ў раён Заблудава. Падазраваных 45 камуністаў (палякаў і рускіх), у тым ліку адна жанчына — расстраляны. Надвор'е цёплае, крыху воблачнае, бачнасць добрая. Агульна ўсе здаровыя, некаторым дакучае страўнік. 1 жніўня. Атрыманы спісак 72 асоб з наваколля Белавежы, камуністычных актывістаў. Па рэкамендацыі фон дэм Баха прызначаны да расстрэлу. Хмарна і душна. Здароўе ў ліпені задавальняючае. 2 жніўня. Схоплены 36 асоб са спіска і расстраляны, у іх ліку 5 жыдоў і 6 жанчын, у тым адна жыдоўка; 2 жыды забіты ў час спробы ўцёкаў. Забіта 15 прыхільнікаў камуністаў. З 25 па 31 ліпеня батальён эвакуіраваў 34 мясцовасці з 6446 жыхарамі. Бачнасць добрая, невялікі дождж. 10 жніўня. Расстраляны 77 жыдоў з лагера для палонных. 15 жніўня. Трэцяя рота правяла жыдоўскую акцыю ў Нараўцы. 259 жанчын і 162 дзяцей перасялена ў Кобрын. Расстраляны 282 жыдоўскія мужчыны ад 16 да 65 гадоў і адзін паляк за спробу грабяжу. Пахмурна, невялікі дождж. 18 жніўня. Трэцяя рота перашукала мясцовасці Нараўка, Лука, Станцыя Нараўка, Новае Ляўкова, Стары Двор, Полымя, Масткі і Тарнопаль. Затрымана і расстраляна 26 прыхільнікаў камуністаў. Цёпла, сонечна, бачнасць добрая". Дзённік 322 паліцэйскага батальёна канчаецца 19 мая 1942 года, калі батальён а гадзіне 13.15 быў адпраўлены з чыгуначнай станцыі Красны Бор каля Смаленска ў Катавіцы.

Камандаваў 322 батальёнам маёр Готліб Нагель з Бадэн-Вюртэмберга, яго намеснікам быў обер-лейтэнант Ёзеф Уль — таксама з Бадэн-Вюртэмберга, трэцяй ротай камандаваў обер-лейтэнант Герхарт Рыбель з Гесена. Пасля вайны служылі яны ў паліцыі. У 1960-х гадах быў у Штутгарце праведзены судовы разбор іх ваенных дзеянняў, аднак улічваючы „недастатковы доказны матэрыял" прысуду ім не вынесена... Мабыць, суддзі палічылі іх добрымі дзядзькамі, якія адно дапамагалі здзейсніць вырослыя з міфаў юнацкія мары рэйхс'егера Германа Герынга. Браты Хек таксама не былі засуджаны і прадаўжалі сваю навуковую кар'еру. Герынг, галоўны завадатар белавежскіх падзей, прысуджаны Нюрнбергскім працэсам на вісельніцу, не дамогшыся змены прысуду на расстрэл, закончыў жыццё самаатручэннем...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Выстава выяў ручнікоў з Падляшша прайшла ў Беларусі

***Каля 20 ілюстрацый ручнікоў было прадстаўлена на выставе «Таямнічы ручнік», якая праходзіла ў Магілёўскім абласным метадычным цэнтры народнай творчасці.***

«Выстава польскіх ручнікоў» — такая другая назва мерапрыемства, якое было наладжана ў межах прайшоўшага 10-13 лістапада ў беларускім Магілёве Чацвёртага міжнароднага форуму «Традыцыйная культура як стратэгічны рэсурс устойлівага развіцця грамадства», Падляшскім музеем, Польскім інстытутам у Мінску і дэпартаментам культуры і нацыянальнай спадчыны Падляшскага ваяводства. На ёй былі прадстаўлены ілюстрацыі ручнікоў, сабраных аддзяленнем Падляшскага музея ў Бельску-Падляшскім у Бельскім, Гайнаўскім і Беластоцкім паветах.

«Ручнік заўсёды быў сімвалам сям'і, сімвалам роду, жаночым сімвалам, сімвалам любові, шчасця. Ёсць мноства знакаў, якія мае ручнік. Наша праца з ручнікамі ў музеі ў Бельску-Падляшскім пачалася пяць гадоў таму. Сістэматычна стваралі мы экспазіцыю, зборы, музейныя калекцыі. Гэта ўсё пачалося ў апошні момант да таго, як ручнікі страцілі сваё значэнне, сімвалізм. Яны станавіліся толькі матэрыяльнай спадчынай продкаў», — заявіла на адкрыцці выставы кіраўнік аддзела Падляшскага музея ў Бельску-Падляшскім Аліна Дэмбоўская (на здымку).



Паводле яе, назва «Таямнічы ручнік» з'явілася таму, што народны ручнік хавае мноства таямнічых элементаў. Сакрум, сімволіка, усё тое, што хочам бачыць у ручніку, адкрываецца праз вывучэнне мясцовасцей, дзе яны былі зроблены, — адзначыла Дэмбоўская.

Паводле Дэмбоўскай, традыцыйныя ручнікі вышываныя крыжыкам. «Гэта найстарэйшыя, якія мы можам спаткаць. Не маем такіх прыгожых ручнікоў, як у вас — ткацкіх, дзе нітка чырвонага колеру працягнутая праз аснову. Такіх ручнікоў у нас, на жаль, няма. Маем найстарэйшыя, якія вышыты крыжыкам, наступныя — у міжваенным часе — плоскай вышыўкай. І яны вельмі падобныя. Маюць падабенства да беларускіх ручнікоў. Можам знайсці сімволіку вельмі падобную, а таксама каларыстыку», — распавяла супрацоўніца аддзялення музея ў Бельску.

«Паміж польскім і беларускім ручнікамі, сапраўды, няма аніякай розніцы. Зробленыя з ільняной тканіны, саматобныя часцей за ўсё, вышытыя крыжыкам ці ў плоскі спосаб. Мы не шукаем розніцы, мы шукаем падабенства», — заявіла Аліна Дэмбоўская.

Сёння калекцыя ручнікоў у музеі складае каля 300 экземпляраў. У інтэрнэце запушчаны адзіны ў Еўропе сайт народнага ручніка, дзе прадстаўлены выявы каля 500 гэтых вырабаў.

«Цяпер мы не ходзім ад хаты да хаты. Да нас людзі прыходзяць, паказваюць, прадстаўляюць, а мы інвентарызуем новыя паступленні. І дзякуючы гэтаму нашы веды пра звычаі, абрады, аб ручніках з кожным разам павялічваюцца», — сказала Дэмбоўская, адзначыўшы, што даследчык, вывучаючы ручнік і малюнак на ім, атрымлівае вельмі важную інфармацыю пра звычаі і традыцыі канкрэтнай мясцовасці.

На выставе былі прадстаўлены выявы ручнікоў толькі з усходняй часткі Падляшша, бо «гэта толькі пачатак дарогі», патлумачыла госця з Бельска. «Можа, потым даследуем цэлае Падляшша, але хочам напачатку сваю тэрыторыю даследаваць, а пасля гэтага пойдзем далей», — распавяла Аліна Дэмбоўская.

Яна выказала спадзяванне, што ў наступным годзе музей пакажа ўжо не выявы, а ўласна ручнікі ў Гродне і Брэсце.

Госця падаравала гаспадарам кнігу «Народны ручнік з ваколіц Бельска-Падляшскага. Вышыўка і карунка», дзе прадстаўлены выявы 200 ручнікоў. «Мы раней меркавалі, што гэта вельмі многа. Але ў снежні выдадзім чарговую кнігу, і там толькі з адной гміны будзе амаль 600 ілюстрацый», — сказала Аліна Дэмбоўская, адзначыўшы, што ў музеі цешацца з магчымасці пахваліцца ручнікамі і магчымасцю падзяліцца досведам.

**Тэкст і фота Уладзіміра ЛАПЦЭВІЧА**

ФЕДЭРАЛЬНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАЯ АЎТАНОМІЯ БЕЛАРУСАЎ РАСІІ

Уладзімір Караткевіч

# http://belros.org

Найвялікшая беларуская дыяспара пражывае ў Расіі. Там іх больш за паўмільёна — 521 тысяча згодна перапісу 2010 года. Праўда, за восем гадоў, што мінулі ад папярэдняга перапісу 2002 года, колькасць беларусаў у Расіі зменшылася амаль на трацінy, бо тады іх было амаль 808 тысяч. Было б дзіўна, калі б такая агромністая дыяспара існавала без беларускіх нацыянальных арганізацый, тым больш што беларусы маюць уласную дзяржаву, якая мусіць падтрымліваць іх нацыянальныя памкненні.

„Ніва" раней пісала пра тое, што падтрымка суполак беларускіх дыяспар з боку беларускай улады часцяком залежыць ад таго, хто і для якіх мэт іх стварыў. Калі беларусы ў замежжы аб'ядналіся для захавання сваёй мовы і культуры, то стаўленне афіцыйнага Мінска да іх больш чым прахалоднае. Калі ж аб'яднанне ставіць на мэце прасоўванне прадукцыі вытворчасці Рэспублікі Беларусь на мясцовы рынак, то падтрымка лукашэнкаўскай улады гарантавана.

У Расіі ўжо больш за пятнаццаць гадоў існуе Федэральная нацыянальна-культурная аўтаномія (ФНКА) «Беларусы Расіі», якая ў сёлетнім ліпені займела сайт па адрасе **http://belros.org**. Яна падтрымліваецца афіцыйным Мінскам. І, магчыма таму, стаўленне да яе з боку беларусаў па духу, а не па анкетных даных, мякка кажучы, не надта прыхільнае.

Вось як апісваецца прайшоўшы 22 мая апошні з'езд арганізацыі на сайце маскоўскай Грамады беларускай культуры імя Ф. Скарыны: „Меса сеньняшней падзеі 2015 — Маскоўскі дом нацыянальнасьцей — установа, дзе нацыянальныя мовы непажаданы, бо зараз няма каму перакладаць запісы дзеля справаздачы, бюджэт не дазваляе перакладчыкаў, інтэлектуальны ўзровень «слухачоў» таксама. Беларускай мовы, зразумела, не было, адзіны выступ сп. Рудакова Алега з Іркуцку і ўсё. З прысутных 36 асобаў абралі 4-х першых намесьнікаў і 16 другіх, самі сябе абралі пад бюджэт. Канцэрт для дэлегатаў — ніводнай беларускай песьні, пераможная расейская папса. Зьезд пакінуў брыдотнае ўражаньне, смярдзела самым гідкім саўковым нафталінам. Моль".

Але, зважаючы на сайт ФНКА, які быў створаны ў сёлетнім ліпені, усё ж такі пераглядаюцца зрухі да ўласна беларускай тэматыкі ў дзейнасці арганізацыі. Так, у рубрыцы „Навіны" месціцца цікавая інфармацыя пра свята „Дзяды" і распавядаецца пра рускага хлопца з расійскага горада Тула, які самастойна вывучыў беларускую мову.

Рэкламуецца на старонцы „Рэкамендуем" такія творы як „Тарас на Парнасе", „Каласы пад сярпом тваім" Караткевіча, „Новая зямля" Коласа, „Пінская шляхта" Дуніна-Марцінкевіча. Таксама, відаць, мелі памкненне ўладальнікі сайта, каб размясціць на ім гуказапісы гурта „Стары Ольса", што выконвае так званую беларускую этнамузыку. Але ў падрубрыцы „Музыка" месціцца толькі назва „Полацкі сшытак" без якога-кольвечы гукавога файла.

Нягледзячы на даволі грунтоўную будову сайта і сур'ёзныя рубрыкі, агромністы пералік рэгіянальных арганізацый, што ўваходзяць у ФНКА, карысная інфармацыя там нямнога. Так, там не змяшчаюцца звесткі пра вывучэнне беларускай мовы, пра святкаванне ўгодак Дня Волі, нават пра ўзнагароджанне Святланы Алексіевіч.

Усе гэтыя акалічнасці прымушаюць у многім пагадзіцца з тым поглядам на ФНКА, які выказваецца ад імя Грамады беларускай культуры імя Ф. Скарыны ў Маскве.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

ДАТА З КАЛЕНДАРА

## Творца-"відук" з Капыльшчыны

# 110 гадоў з дня нараджэння Яна Скрыгана

Беларускі пісьменнік Ян Скрыган нарадзіўся 16 лістапада 1905 г. у вёсцы Труханавічы (цяпер Капыльскі раён Мінскай вобласці) у сялянскай сям'і. Пачатковую адукацыю атрымаў у мясцовай царкоўнапрыходскай школе, потым вучыўся ў Слуцку ў Беларускай гімназіі і Сельскагаспадарчым тэхнікуме. Вялікі ўплыў на свядомасць юнака зрабілі кнігі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі.

У 1924 г. Ян Скрыган стаў супрацоўнікам слуцкай акруговай газеты „Вясковы будаўнік". Пасля пераехаў у Расоны, працаваў загадчыкам Народнага дома пры выканкаме, пасля ў рэдакцыі газеты „Чырвоная Полаччына", дзе пазнаёміўся з Петрусём Броўкам. У 1932 г. скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне БДУ. Быў сябрам літаратурных аб'яднанняў „Маладняк" і „Літаратурна-мастацкая камуна". Працаваў у рэдакцыі газеты „Літаратура і мастацтва".

Дэбютаваў Ян Скрыган вершамі ў 1925 г. Малады паэт падпісваўся незвычайнымі псеўданімамі: Пірат, Відук, Янка Відук. Пазней сам тлумачыў іх сэнс: „Пірат" мае разбуральна-рэвалюцыйную ідэю перамены, „Відук" — сімвал недадольнага жыццесцвярджэння, так на Случчыне называюць дзікі мак-самасейку. Першыя паэтычныя спробы былі створаны пад уплывам вельмі прыкметнай фігуры ў літаратурным жыцці 20-х гадоў Паўлюка Шукайлы, які быў гарачым прыхільнікам футурызму.

Творчы шлях Скрыгана-празаіка пачаўся з апавядання „Таіса" (1927) і аповесці „Затока ў бурах" (1929). Пераход да прозы быў няпросты. Ад некаторых іншых маладнякоўцаў Ян Скрыган адрозніваўся арыентацыяй на традыцыю, вострым адчуваннем мовы, любасцю да роднага слова, імкненнем вучыцца, а не вучыць.

Актыўная грамадская і літаратурная дзейнасць была раптоўна спынена: 13 лістапада 1936 г. Яна Скрыгана беспадстаўна арыштавалі за „контррэвалюцыйную дзейнасць" і асудзілі на дзесяць год пазбаўлення волі з высылкай у Сібір (Кемераўскую вобласць). У 1946 г. ён быў вызвалены, аднак пазбаўлены грамадзянскіх правоў на пяцігадовы тэрмін. Працаваў на пасадзе бухгалтара на гідролізным заводзе ў Фергане, на сланцахімічным камбінаце ў Эстоніі, куды пераехаў, каб быць бліжэй да роднай Беларусі, дзе яму было забаронена жыць. 25 чэрвеня 1949 г. зноў арыштаваны і высланы ў Сібір, у Сухабузімскі раён, дзе працаваў бухгалтарам у райкамгасе і машынна-трактарнай станцыі. У снежні 1954 г. з Яна Скрыгана былі зняты ўсе абвінавачанні, і ён быў поўнасцю рэабілітаваны і адноўлены ва ўсіх правах. Пасля вяртання ў Мінск пісьменнік актыўна ўключыўся ў літаратурную дзейнасць: працаваў рэдактарам у Дзяржвыдавецтве БССР, літкансультантам Саюза пісьменнікаў, рэдактарам і намеснікам галоўнага рэдактара часопіса „Полымя".

Як добры знаўца мовы быў запрошаны галоўным рэдактарам выдавецтва „Беларуская савецкая энцыклапедыя" Петрусём Броўкам на пасаду загадчыка літаратурна-кантрольнай рэдакцыі (1967-1975). Працаваў адказным сакратаром камітэта па Дзяржаўных прэміях БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры.

Скрыган умеў шчыра радавацца чужому творчаму поспеху, з радасцю падтрымліваў маладых. Калі бачыў нешта вартае — дапамагаў, спрыяў, чым мог. Яму прыносілі і дасылалі вельмі шмат рукапісаў літаратары-пачаткоўцы. Часта ездзіў выступаць у рэгіёнах. Асаблівую ўвагу звяртаў на мову. Пісаў Ян Скрыган да апошняга свайго дня. Не стала пісьменніка 18 верасня 1992 г., пахаваны ён на Паўночных могілках сталіцы.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

5 ☞ працяг

# Ручнікі Гарадоцкай зямлі



■ Айцец Мікалай Астапчук

Ручнікі на выставе прадстаўляла сярод іншых Тамара Бурачэўская, былая дырэктарка ГЦК у Гарадку:

— Ручнікі маёй мамы і бабулі, якія я пазычыла на выставу, ляжалі ў сундуку, які я аддала свайму сыну. Ручнікі я захавала сабе і будуць яны са мной назаўжды. Гэта іх дзявочыя ручнікі. Я хацела, каб і іншыя ўбачылі іх прыгажосць. Калі я выходзіла замуж, то ўжо ручнікоў не вышывала, у мяне не было на гэта часу. Я працавала ў культуры і з раніцы да ночы была занята. А раней жанчыны проста мусілі гэта зрабіць. Гэта быў звычай, традыцыя.

У апісанні ручніка вышыванага гладдзю з 1950-х гадоў сёстры Ніна Супрановіч і Надзея Тарасэвіч са Случанкі звярнулі ўвагу, што іх маці ткала палатно, а Надзея вышывала і пляла карункі. Ніна Супрановіч:

— Мая мама, 1934 года нараджэння, была дзеўкай, калі гэты ручнік з прыгожымі хрызантэмамі вышывала. Ён вісеў на іконах. Сама ткала палатно на кроснах. Нават дыванкі ткала, ну і такія шэрыя ручнікі для выцірання. А сястра не толькі ручнікі, але і макаткі ткала, а пасля даравала знаёмым. Цяпер ручнік з хрызантэмамі звычайна вісіць у маёй дачкі ў Беластоку. Маю яшчэ другі па маці, вісіць у маім доме, але я не прынесла яго сюды, таму што цяжка было яго зняць, так моцна ён прычэплены.

Леаніла Лавіцкая, солтыска Меляшкоў:

— Мамы няма ўжо з дваццаць гадоў. Калі я была маладая, гэтымі ручнікамі не была зацікаўлена. Думала так: ручнік гэта ручнік. Зараз, на жаль, у нас ужо наўрад ці хто павесіць ручнікі на іконах, і таму нават зараз іх не вышываюць. У мяне ляжаць яны ў адным месцы з іншымі мамінымі рэчамі. Таксама вышываю, але крыжыкам і вяжу кручком, галоўным чынам, сурвэты. Мабыць, аднойчы якуюсь сваю выставу пакажу.



■ Тамара Бурачэўская

Прыкладна восемдзесят гадоў ручніку з калекцыі Лідзіі Лотыш, вышытым яе маці Марыяй Супрановіч з Меляшкоў на фабрычным палатне плоскай вышыўкай і з ручной карункай:

— Я вышываю, як мая мама ці цёця, хоць ужо не ручнікі. Ужо няма такога прыстойнага матэрыялу, як быў раней. Пасля гэтай выставы, я думаю, цяпер усе мы будзем вышываць ручнікі. Шмат узораў можна тут пабачыць.

З 30-х гадоў мінулага стагоддзя паходзіць ручнік вышываны гладдзю з уласнаручнай карункай, зроблёнай Верай Марцінчык, а пазычаны Тамарай Дзярманскай з Меляшкоў:

— Я дала ручнікі, якія вышыла мама ў 60-я гады. Узоры бралі ад каго-небудзь ці з газеты. Вышыць можна было на працягу тыдня, а карунку дараблялі ў два. Ну і ў тры тыдні такі ручнік паўставаў. Часцей за ўсё гэта рабілі вечарамі ў зімовы час, а тады свята было не самае лепшае. Цяпер наўрад ці хтосьці зацікаўлены ў іх. Няма такой моды. У лепшым выпадку, хтосьці з сям'і схоча сабе ўзяць на памятку.

Падчас адкрыцця выставы дырэктар гарадоцкага ГЦК Юры Астапчук падкрэсліў:

— Я спадзяюся, што гэта не будзе апошняе такое дзеянне, каб абараніць ад забыцця гісторыю нашай гміны, якое будзе прыгадваць, што стварала нас такімі, якімі мы ёсць.

Адкрыццё выставы аздобіў песнямі Янка Карповіч, ламаліся таксама караваем свежаспечаным на вернісаж Маргарытай Трызноўскай, якім гаспадыня — Дарота Сульжык — частавала шматлікіх гасцей, у асноўным жыхароў Гарадка і ваколіц. Выстава будзе доўжыцца да канца снежня, а суправаджае яе галіновая выстава бельскага філіяла Падляшскага музея «Выратаваць ад забыцця — ахова абраднага ручніка ў гміне Бельск-Падляшскі». Дарота Сульжык:

— Цяпер я мару пра выставу нашых гарадоцкіх строяў.

❖ **Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

## Людзі з белай палачкай

Кожны год у кастрычніку Павятовае праўленне Польскага саюза невідучых (ПСН) у Гайнаўцы арганізуе святкаванне Дня белай палачкі. Гэтак было і сёлета. Ладзіла яно канцэрт, які ўсім спадабаўся. Усе глядзелі таксама кінафільм пад загалоўкам „Н як невідучы". Мерапрыемства вяла старшыня праўлення гуртка ПСН Аліцыя Леанюк. Былі ўзнагароды і падзяка ўсім, хто дапамагае невідучым. Дырэктару Кааперытыўнага банка ў Гайнаўцы Сяргею Койлу ўручылі значок „Прыяцель невідучага".

На ўрачыстасці былі прадстаўнікі павятовых і гарадскіх улад — староста Міраслаў Раманюк і бургамістр Юрый Сірак, кіраўнікі Павятовага цэнтра дапамогі сям'і і Гарадскога асяродка сацыяльнай дапамогі, а таксама прадстаўнікі гайнаўскай паліцыі.

Паліцыянт Тамаш Гапанюк выступіў з кароткім дакладам на тэму, між іншым, як невідучыя павінны пераходзіць з аднаго на другі бок вуліцы. Ён раздаў невідучым і тым, якія вельмі слаба бачаць, спецыяльныя святлоадбівальныя жоўтыя павязкі на рукавы вопраткі, якімі трэба карыстацца ўвечары і ноччу ідучы або едучы па маставой вуліцы. Гэта для бяспекі кожнага.

Невідучыя ахвотна прыязджаюць на такія сустрэчы, каб пабыць сярод сяброў і знаёмых, пагутарыць за пачастункам. Наступная сустрэча адбудзецца перад Калядамі. **(яц)**

## 22.11 — 28.11

**(22.03. — 20.04.)** 21-22.11. над вашай парай могуць павіснуць цямнейшыя хмары; давярайце адзін аднаму! 22-26.11. будзеш дзейнічаць з развагай і цярплівасцю. Крок за крокам будзеш ісці да поспеху. З мінулага вопыту дастанеш адпаведныя высновы. На працы шанц, якога ты чакаў.

**(21.04. — 21.05.)** Калі пазнаёмішся з кімсьці, хутка не ангажуйся, бо гэта будуць толькі бурлівыя адносіны. 21-25.11. чакае цябе нямала нерваў. Сябры стануць за табою мурам, але 23-27.11. стане перад табою асоба, якой намеры кепска адчытаеш. А Нептун у квадратуры з Сатурнам (24-28.11.) не дазволіць на паразуменне. Не пазычай грошай! Вельмі дбай аб свой пазваночнік і падстраўнікавую залозу.

**(22.05. — 22.06.)** Падумай, ці далей брысці ў гэтыя сувязі, ці не лепш адпусціць. Калі ты ў пастаяннай пары, усё будзе ісці памалу, пакуль не рассакрэціцца штосьці, што хаваеш. З 23.11. разварушыцца твая канкурэнцыя, якая набярэ адвагі. Можаш мець непрыемную размову з кіраўніцтвам (памылка, непаразуменне). 22.11. можа рэзка пагоршыцца твой настрой.

**(23.06. — 23.07.)** 21-22.11. могуць турбаваць цябе нялёгкія думкі, не вырашай цяпер важнага. 21-27.11. будзеш мець перашкоды ва ўвядзенні наватарскіх змен на працы. Еж вітаміны і мікраэлементы, бо пагоршыцца твая форма. У кантактах з кіраўніцтвам будзь дыпламатам. Сумленна выконвай свае абавязкі, бо хтосьці блізка цікуе, каб ты ўспатыкнуўся.

**(24.07. — 23.08.)** 21-25.11. пачнуцца вельмі пазітыўныя змены і шмат што зменіцца да непазнавальнасці. Але ў тваім атачэнні можа паявіцца асоба, якая табе схоча зашкодзіць у выконванні прафесійных абавязкаў. Пільнуйся ад інфекцыі, адразу лячыся. Не скампраметуйся з 27 (да 30.11), спроба выблытацца з сітуацыі яшчэ больш табе зашкодзіць; пільнуйся з кім сустракаешся і што гаворыш, не камбінуй.

**(24.08. — 23.09.)** 23-27.11. зацікавіш шэфа сваімі новымі задумамі і здабудзеш прызнанне. Добры час на паправу сваёй фінансавай сітуацыі, знаходку новых крыніц заробку. Добра харчуйся, не сядай на галодную дыету.

**(24.09. — 23.10.)** 22-23.11. блізкія будуць цябе схіляць да благога, не слухайся, але і не ваюй з імі, бо спрэчкі адаб'юцца табе ікаўкай. Стаў свае аргументы і моцныя межы. 28.11. нейкія застарэлыя справы выявяцца і знойдуць вырашэнне. Выкажашся наватарствам і арганізаванасцю, але ў канцы месяца штосьці можа гэта папсаваць. Не прапусці каштоўных нагод 21-25.11.!

**(24.10. — 22.11.)** Вельмі дбай аб здароўе 21-25.11., адразу бяжы да лекара, каб апярэдзіць нейкую сур'ёзную хваробу. 22-23.11. будзеш хадзіць злосны, дык хоць усміхайся! У пары лепш папрасіць адзін у аднаго прабачэння, бо вызначанне він да нічога не давядзе. У кампанейскім жыцці многа змен, але ў большасці пойдзе табе гэта к дабру.

**(23.11. — 22.12.)** Добры час у інтарэсах. Адкрыйся на новыя магчымасці, дык хутка знойдзеш новыя крыніцы заробку. Інтуіцыя захавае цябе ад памылак — слухай яе падказак. Плыві з цёкам здарэнняў, не камбінуй і лаві нагоды. Найбольш неверагодны сцэнарый можа быць якраз трапны! Высылай CV, распытвай пра новую пасаду.

**(23.12. — 20.01.)** 22-26.11. поўнасць творчых моцаў, амбіцыі і сілы. Можаш у гэты час зрабіць вельмі важную справу для сваёй кар'еры. 25.11. выявіцца штосьці, чаго баішся, паводзіны адной асобы з працы яшчэ раз цябе ашарашаць. 24-28.11. набяруць моцы спрэчкі са сваякамі. Вельмі пільнуйся, каб не атруціцца, не прымай зашмат лякарстваў, абмяжуй каву і алкаголь.

**(21.01. — 19.02.)** Трэба будзе заняцца хатнімі справамі, кантраляй дзяцей. Можаш выбрацца ў супольнае падарожжа з сямейнікамі. Можа адазвацца да цябе хтосьці з вельмі далёкага мінулага, не адмаўляйся ад сустрэчы з ім, бо будзе мець для цябе важную вестку, якая зменіць твой погляд на шмат спраў. 21-25.11. не дыскутуй, бо будзе дзікі скандал. 25.11. вызвалішся з абмежаванняў з мінулага, будзеш душой кампаніі.

**(20.02. — 21.03.)** 22-23.11. твае рашэнні будуць трапныя, зрэалізуеш сваю мару. 23-27.11. злоснымі заўвагамі не здабудзеш прыхільнасці атачэння, не спрачайся без сэнсу, асабліва ў пары не даказвай хто мае рацыю. Можаш расстацца спакайней. 24-28.11. выявіцца, хто табе не спрыяе, а хто жадае дабра. Задбай аб свой адпачынак. Будзеш мець цудоўныя задумы, будзеш крэатыўны і сумленны — усіх ачаруеш!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. фірма, дзе б'юць жывёл на мяса = 9 _ 10 _ 6 _ 7 _ 8 _;
2. гаручая вадкасць для асвятляльных лямпаў = 11 _ 22 _ 17 _ 16 _;
3. дванаццаць месяцаў = 25 _ 24 _ 21 _;
4. дзяржава з Капенгагенам = 1 _ 2 _ 13 _ 12 _ 14 _;
5. нутраны тлушч = 18 _ 19 _ 20 _;
6. яшчэ не палкоўнік = 3 _ 4 _ 5 _ 23 _;
7. трэці гук музычнай гамы = 15 _ 26 _.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | | 9 | 10 | 11 | 12 |
| 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | | 23 | 24 | 25 | 26 |

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 44 нумара**

Праём, пляж, Крым, журба, дачка, Адана, Мосін, асот, Валдай, яхта, Смаленск, адказ.

Рашэнне: **Чужая жонка мёдам мазана, а свая смалой**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

Са зместу перабродскіх песень я зразумела ў чым заключаецца сутнасць метафізічнага воклічу: «Соль табе ў вочы!». Гэтыя словы гаварылі нашы матулі, каб адагнаць сурокі, чары і злыя вочы. Разам з фразай «Соль табе ў вочы» трэба было плюнуць за сябе, найлепш тры разы. Слоўны абярэг заўсёды з'яўляўся на вуснах парадзіх, калі хвалілі іх немаўлят ці дачок-прыгажунь. Верылі, што залішняя хвальба можа наклікаць немач, хваробы ды «адабраць» ім здароў'е і шчасце. Нішто не дадзена нам на ўласнасць, выключнасць, вечнасць. Па сённяшні дзень самым распаўсюджаным абярэгам ад чараў і злога вока палешукі лічаць соль. Гэты кулінарны мінерал пераtрываў у якасці метафізічнага сімвала ў прывітальным саставе «Хлеб ды соль». Невыпадкова. Нашы продкі верылі, што пры кантакце з гасцямі і чужынцамі неабходная чуткая асцярожнасць. Вось у перабродскай песні ахвярай чараў становіцца легкадумны казачок. Яго зманілі заначаваць на чужыне, ды ўгасцілі чароўнай вячэрай, без драбка солі. У выніку простай аперацыі ён забыўся пра шчырае каханне ды быў вымушаны гараваць «на чужыне», далёка ад роду і кампаніі. Па палескіх мерках гэта магло значыць, што чары адправілі ў суседнім сяле, або дваццаць-трыццаць кіламетраў ад роднага панадворка. А песня ідзе так:

**Пуойду по содачку,**  
Тай нарву лісточку,  
Дай понакрываю,  
Мілого сліэдочкі.

Каб роса нэ впала,  
Пташкі нэ ходілі,  
Каб мого мілога,  
Друγі нэ любілі.

Другі полюбілі,  
Дай прычаровалі,  
Нэ солону страву,  
Вэчэрать давалі.

Вэчэрай козачэ,  
Дай нэ сумлівайсэ,  
Колі на чужыні,  
Ночовать остаўса.

А я жінку маю,  
Шчэй діточок двое,  
Шчэй діточок двое,  
Чэрнявы обое.

Дурны ты козачэ,  
Дураком оставса,  
Штой ты на чужыні,  
Всю правдой прызнаўса.

У дарозе да спявачкі Надзеі Яўсовіч я спытала ў Юры, ці ў іх сяле варажылі і чаравалі. Пытанне невыпадкова было пастаўлена ў мінулым часе. Пра колішнія звычаі лягчэй гаварыць, тут таксама няма рызыкі, што палічаць цябе цемрашалам. У адказ мой прыгодны апякун хмыкнуў:

— Я не ў курсе справы!

Юры параіў распытаць у старэйшых жанчын. Калі пасля я пытала ў сяле пра магічныя практыкі, жанчыны адаслалі мяне да шаптухі ў Альманы. Гэта па-суседску, дванаццаць кіламетраў далей. Дабрацца туды я не мела магчымасці, бо ў маім пашпарце не хапала беларускай візы. Славутая шаптуха жыла ў Рэспубліцы Беларусь.

* * *

Сто гадоў раней падарожнікі, этнографы і даследчыкі, якія наведвалі Палессе, прыхаваную ад свету краіну лясоў і балот, здзяйснялі вялікае адкрыццё. Тут спатыкалі скрытых, маўклівых і неахвотных да кантактавання тубыльцаў. Іх песні лічылі тужлівым крыкам душы, а рытуалы і абрады — магічным забабонам. Такія сенсацыі інтрыгавалі прадстаўнікоў цывілізаванага свету. Самі палешукі пускалі міма вушэй падобныя ацэнкі. Як усе прадстаўнікі архаічных грамадскасцей, самі пра сябе мелі надта высокае ўяўленне ды лічылі сябе найбольш высакародным, справядлівым, гасцінным і прыгожым народам. Сцераглі сваіх рытуалаў, павер'яў і песень, каб не дай Бог іх скарб дастаўся ў рукі чужынцаў.


Палескае вяселле ў сяле Марочна

# У палескай глыбінцы (22)


Новы дом новых (бурштынавых) мільянераў

Гэта магло паслабіць моц і наклікаць паразы. Ахова каштоўнасцей і забарона парушыць табу захаваліся па сённяшні дзень. З такой праблемай сустрэліся перабродскія жанчыны, якія вучылі песень і танцаў прыезджых палякаў, захопленых іх культурай. Што і раз у іх бок чуліся словы крытыкі і абурэння. Закід гучэў больш-менш так:

— Навошта раздаяце нашы песні чужым людзям?!

Каб захаваць мір і зразуменне ў сяле, спевакі былі вымушаны змагацца на аргументы. Яны тлумачылі, што выпускаюць у свет свае песні, каб яны не памерлі разам з імі. Іх дзеці і ўнукі не хацелі і не ўмелі ўжо спяваць на стары лад. Не хапала жыццёвага досведу і ўражлівасці на другога чалавека, на прыроду. І зразумення, якую важную ролю выконваў спеў у жыцці кожнага чалавека і ў цэлым грамадстве. Гэту залежнасць добра адлюстроўвае старая прыказка, якая сцвярджае: «Без песні — хоць трэсні!», то-бок, без песні няма сапраўднага жыцця. Ці прыезджыя нешта змянілі, схілілі палескую моладзь у бок знікаючай музычнай традыцыі? Напэўна даказалі, што перабродскія людзі і песні для іх не абы-што.


Пячэнне «З грыбом»

Прыязджалі два-тры разы ў год цягам пятнаццаці гадоў. Звазілі сваіх настаўнікаў-спевакоў у Варшаву, Люблін, Кіеў. Там наладзілі ім канцэрты, падбалі пра камфортныя ўмовы ды яшчэ добра заплацілі! Пасля запісалі кампакт-дыск і фільм «Polesie — pieśni i ludzie». Душой праекта была Ягна Кнітэль, якую ў Перабродах называюць «галоўнай кіраўнічкай».

Дзякуючы гэтай кружэлцы я трапіла ў Пераброды, каб тут, над ракой Львой, у гістарычным Пінска-Тураўскім княстве, прыгадаць мову і песні свайго падляшскага дзяцінства.

* * *

— Пра тое, што я палешук, ведаю даўно, — пачаў Юры. — Гэта было ў пачатку дзевяностых. Тады я часта пабываў у Пінску. У рукі папала газета «Чырвоная змена», дзе была старонка на палескай мове «Балесы Полісься». Я прачытаў і ведаю, што здаўна шукаю такога для сябе. Разумеў, што мы, палешукі, іншыя, чым украінцы. Што ў нас асобная, свая мова. Што людзі больш схіляюцца да Беларусі, чым у бок Кіева. Старыя дык наогул не ведаюць украінскай мовы. Ды не толькі старыя...

Тут Юры расказаў пра свайго сябру Юрыя, мільянера з суседняй вёскі. Ён трымае манаполію на гандаль журавінай ва ўсёй Украіне. Той дзе б не быў, ці ў Кіеве, ці ў Адэсе, размаўляе толькі па-палеску!

— Ён свядомы палешук?

— Хутчэй ідзе пра другое, — удакладніў Юры. — Ён не ведае ніякай іншай мовы. І калі пачынае з кімсьці гаварыць, на яго спачатку глядзяць, але пасля слухаюць, стараюцца зразумець. Бо ж... мільянер!

— То як яму ўдалося разбагацець без ведання мовы? — апошняя справа здавалася быць сакрэтнай, магічнай штукай.

— Ён проста такі шустры!

Пасля Юры сказаў, што ў наваколлі Дубровіцы з дня на дзень з'яўляюцца новыя мільянеры. Зараз іх трыццаць або сорак. Разбагацелі на нелегальнай здабычы бурштыну. Такія мільянеры з'явіліся і ў яго родных Перабродах.

— А чаму гэтага не відаць на вуліцы? — спытала я.

— Людзі ж не дурныя, каб хвастацца багаццем. Сёння пакажаш, а заўтра прыйдуць мянты і ўсё ў цябе забяруць! — адказаў Юры і на доказ зразумення яшчэ падмаргнуў. Мне хацелася падтрымаць яго палескае разуменне і ў знак братэрства адказаць варажэньнем магічным лозунгам: «Соль ім у вочы!».

(працяг будзе)

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960